Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

СУВЯЗЬ САВЕЦКІХ ОРГАНАЎ ПАМІЖ САБОЙ І МАСАМІ—АСНОВА САВЕЦКАГА БУДАЎНІЦТВА.

# БЮЛЕТЭНЬ

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БЕЛАРУСКАЕ ССР.

31 КАСТРЫЧНІКА 1927 г.

№ 16 (41)

3-ці год ВЫДАНЬНЯ.

ВЫДАНЬНЕ СНК БССР.
МЕНСК—1927 г.

# ЗЬМЕСТ.

*Частка афіцыйная.*

Стар.

1. Абежнік Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР аб абвяшчэньні інструкцыі ВСНГ СССР „аб парадку будаваньня і рэгістрацыі электрычных станцыі і нагляду за імі“. . . . 5.

ДАДАТАК. Інструкцыя аб ужываньні пастановы СНК СССР за 30 чэрвеня 1925 г. „Аб парадку будаваньня і рэгістрацыі электрычных станцый і нагляду за імі“ (З. З. СССР 1925 г., № 45, арт. 336). . . . . . 5.

2. Абежнік НК Фінансаў БССР аб парадку пераводу крэдытаў па дзяржаўным бюджэце з аднаго параграфу ў другі, . . 11.

3. Інструкцыя НК Працы БССР аб узаемаадносінах страхавых кас з акруговымі інспэкцыямі працы. . . . . . 12.

4. Пастанова НК Працы, Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі і НК Аховы Здароўя БССР аб увядзеньні ў сілу на тэрыторыі БССР абавязковай пастановы НК Працы і ВСНГ СССР, за 14 ліпеня 1927 г., № 179 „Правила устройства и содержания кустарных маслобоен“. . . . . . . . . . 13.

5. Пастанова НК Гандлю БССР аб гранічна-максымальных таксах за перамол таварнага зярна з вільготнасьцю больш 16 проц. . 13.

6. Пастанова НК Гандлю БССР аб забесьпячэньні неабходнай кольказсьцю бульбы дзяржаўных броварaў і крухмальна-патачных заводаў БССР. . . . . . . . . 15.

7. Пастанова НК Гандлю БССР аб зацьверджаньні на хлебную кампанію 1927-28 г. па БССР базісных кандыцый. . . . 16.

8. Інструкцыя НК Земляробства і НК Юстыцыі БССР аб умовах адказнасьці прадаўца за карэнныя недахопы прададзенай жывёлы. 17.

9. Абежнін НК Унутраных Спраў БССР аб парадку выдачы дазволаў на права гандлю дэнатураваным сьпірытусам. . . . 18.

ДАДАТАК 1. Інструкцыя аб парадку выпуску і продажу насяленьню дэнатураванага сьпірытусу для тэхнічных і гаспадарчых патрэб, выданьня на падставе пастановы СНК СССР за 18 мая 1926 г. па узгадненьні з НКФ СССР. 19.

ДАДАТАК 2. Абежнік НК Фінансаў СССР аб скасаваньні талённых кніжак на набыцьцё дэнатураванага сьпірытусу ў вялікіх гарадох. . . . . . . . 21.

ДАДАТАК 3. Абежнік НК Фінансаў СССР, № 594 за 11 ліпеня 1927 г. . . . . . . . 22.

10. Абежнік НК Унутраных Спраў БССР аб скасаваньні арт. 13 інструкцыі НК Унутраных Спраў БССР аб ужываньні пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 кастрычніка 1926 г. аб аплаце жылых памяшканьняў ў гарадох БССР. . . . . . . . . 22.

Стар.

11. Пастанова НК Юстыцыі і НК Унутраных Спраў БССР аб перабудаваньні ў дамох прыватных уласьнікаў жылых памяшканьняў ў няжылыя. . . . . . . . . . 23.

12. Абежнік НК Юстыцыі і НК Земляробства БССР аб адчужэньні будынкаў, якія беспасрэдна зьвязаны з гаспадаркаю, але знаходзяцца на сядзібнай гарадзкой зямлі. . . . . . 24.

13. Сьпіс асоб, зьмяніўшых прозьвішчы і імёны. . . . . . 24.

14. Інструкцыя Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР аб перавыбарах сельскіх і раённых камітэтаў сялянскіх таварystваў ўзаемадапамогі. . . . . . 26.

## *Частка неафіцыйная.*

15. Ітогі конкурсу на лепшы сельскі камітэт сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі БССР А. Арапучык. . . . . . 30.

16. Чарговыя задачы ў працы сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі БССР. А. Арапучык. . . . . . . . 34.

## 1. Абежнік Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі БССР

АБ АБВЯШЧЭНЬНІ ІНСТРУКЦЫІ ВСНГ СССР „АБ ПАРАДКУ БУДАВАНЬНЯ І РЭГІСТРАЦЫІ ЭЛЕКТРЫЧНЫХ СТАНЦЫЙ І НАГЛЯДУ ЗА ІМІ“.

Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі БССР ніжэй абвяшчае для абавязковага кіраваньня і выкананьня распрацованую на падставе арт. 8 пастановы СНК СССР за 30 чэрвеня 1925 г. (З. З. СССР 1925 г., № 45, арт. 336) інструкцыю ВСНГ СССР „Аб парадку будаваньня і рэгістрацыі электрычных станцый і нагляду за імі“.

Старшыня Вышэйшага Савету
Народнай Гаспадаркі БССР **С. Карп.**

Нач. Адм. Гас. Кіраўніцтва **А. Лучышын.**

30 верасьня 1927 г.
№ 91.

ДАДАТАК.

### Інструкцыя Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі СССР

АБ УЖЫЗАНЬНІ ПАСТАНОВЫ СНК СССР ЗА 30 ЧЭРВЕНЯ 1925 г. АБ ПАРАДКУ БУДАВАНЬНЯ І РЭГІСТРАЦЫІ ЭЛЕКТРЫЧНЫХ СТАНЦЫЙ І НАГЛЯДУ ЗА ІМІ“ (З. З. СССР 1925 г., № 45, арт. 336).

### РАЗЬДЗЕЛ 1.

*Агульныя палажэньні.*

1. Паводле пастановы СНК СССР за 30-га чэрвеня 1925 г. „Аб парадку будаваньня і рэгістрацыі электрычных станцый і нагляду за імі“ (З. З. СССР 1925 г., № 45, арт. 335) і пастановы СНК СССР за 16 лісакавіка 1927 г. (З. З. СССР 1927 г., № 16, арт. 180) і за 15-га ліпеня 1927 г. (прат. 222, п. 27) усе без выключэньня электрычныя станцыі на тэрыторыі СССР агульнага карыстаньня і спэцыяльнага прызначэньня (фабрычна-заводзкія, транспартныя і інш.), пад ведамам і кіраваньнем каго-б яны не знаходзіліся і да каго-б яны не належалі, рэгіструюцца і кантралююцца ВСНГ СССР, а таксама ВСНГ СССР ўстанаўляе агульны тэхнічны нагляд за імі.

2. Органам ВСНГ СССР, які выконвае паказаныя ў п. 1 функцыі, зьяўляецца Галоўнае Электратэхнічнае Кіраўніцтва (Галоўэлектра), пры якім утвараецца Галоўная Тэхнічная Інспэкцыя для нагляду за электрычнымі ўстаноўкамі моцнага току (Электранагляд). Пры ВСНГ саюзных рэспублік утвараецца тэхнічная інспэкцыя для нагляду за электрычнымі станцыямі, якая дзейнічае паводле дырэктыў ВСНГ СССР. Па погляду ВСНГ саюзных рэспублік можа

ўтварацца, калі гэта патрэбна, тэхнічная інспэкцыя для нагляду за электрычнымі станцыямі і пры мясцовых органах саюзных рэспублік.

3. Нагляд за электрычнымі станцыямі Народнага Камісарыяту Шляхоў на мясцох арганізуецца Галоўнаю Тэхнічнаю Інспэкцыяю ВСНГ СССР праз органы Электранагляду Народнага Камісарыяту Шляхоў, якія ў адносінах да гэтага нагляду дзейнічаюць паводле дырэктыў і ў межах паўнамоцтваў Галоўнай Тэхнічнай Інспэкцыі ВСНГ СССР.

4. Тэхнічны нагляд, які робіцца Электранаглядам, не звальнае электрычныя станцыі ад установуленага нагляду інспэкцыі працы народных камісарыятаў працы саюзных рэспублік на падставе дзеючых законаў.

5. Дазвол на будаваньне электрычных станцый даецца належнымі органамі, паводле заключэньня органаў Электранагляду.

Апроч гэтага, для выдачы дазволаў на пабудаваньне гідраэлектрычных станцый на суднаходных і сплаўных рэках патрэбна заключэньне адпаведных органаў Народнага Камісарыяту Шляхоў, а для выдачы дазволаў на будаваньне гідраэлектрычных станцый на іншых рэках—заключэньне адпаведных органаў народных камісарыятаў земляробства.

6. Дазволы на будаваньне электрычных станцый у пагранічнай паласе ўзгадняюцца з Народным Камісарыятам Ваенных і Марскіх Спраў, якому падаюцца копіі адпаведных хадайніцтваў аб дазволе з усімі матар'яламі.

## РАЗЬДЗЕЛ II.

### *Аб рэгістрацыі электрычных станцый.*

### А. Рэгістрацыя электрычных пабудоў.

1. Заявы аб першапачатковай рэгістрацыі павінны падавацца:

а) дзейнічаючымі станцыямі на працягу месяца з моманту апублікаваньня гэтай інструкцыі, адначасна па адным экзэмпляру на адрэсы: ВСНГ СССР (Галоўэлектра) і ВСНГ адпаведнай саюзнай рэспублікі, а копіі заяў аб рэгістрацыі станцый сілаю да 500 квт. таксама органам, паказаным у арт. 2 пастановы СНК СССР за 30 чэрвеня 1925 г.;

б) новымі станцыямі разам з заяваю аб гатоўнасьці да пуску іх у ход—на тыя-ж адрэсы.

Заявы аб рэгістрацыі павінны складацца паводле даданых да гэтай інструкцыі формаў (ф. № 1 для электрасілавых установак, ф. № 2 для электрычных сетак). Копіі форм №№ 1 і 2 павінны накіроўвацца ў орган, якому станцыя падпарадкавана.

*Увага 1.* Станцыі сілаю да 50 квт., пабудаваныя паводле пастановы СНК СССР за 30 чэрвеня 1925 г. ў явачным парадку, таксама павінны рэгістравацца ў парадку гэтай інструкцыі.

*Увага 2.* Рэгістравацца павінен усякі стацыянарны электрычны гэнэратар, хаця-б ён і пушчаўся ў рух ад агульнага рухавіка.

*Увага 3.* Зьвесткі, што патрэбны для рэгістрацыі электрычных станцый, якія знаходзяцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Шляхоў, даюцца кіраўніцтвамі чыгунак і кіраў-

ніцтвамі воднага транспарту, а зьвесткі-ж адносна рэгістрацыі
электрычных станцый, якія знаходзяцца пад ведамам Народнага
Камісарыяту Пошт і Тэлеграфу,—акругамі сувязі.

2. Электрычныя станцыі, якія ўжо зарэгістраваны, паведамляюць
штогод у ВСНГ СССР (Галоўэлектра), у ВСНГ адпаведнай саюзнай
рэспублікі і ў орган, якому станцыя падпарадкавана, на працягу
першага месяца новага справаздачнага году аб усіх быўшых зьме-
нах (перабудаваньнях, пашырэньнях і зьмяншэньнях), запаўняючы
ў блянках тае самай формы (ф. ф. №№ 1 і 2) адпаведныя графы два
разы: аб стане станцыі да пачатку мінулага справаздачнага году і
тое самае (у два радкі) аб стане да пачатку новага справаздачнага
году.

*Увага.* ВСНГ СССР (Галоўэлектра) штогод паблікуе зьве-
сткі, якія ён мае.

3. Станцыі, якія зарэгістраваны ў ВСНГ СССР (Галоўэлектра),
атрымоўваюць праз ВСНГ адпаведных саюзных рэспублік пасьвед-
чаньні аб рэгістрацыі ўстаноўленага ўзору.

4. Адміністрацыя прадпрыемства і адміністрацыя тае ўстановы,
пад ведамам якой знаходзіцца станцыя, зьяўляюцца адказнымі за пра-
вільнасьць і сваячаснасьць рэгістрацыі.

5. За непадачу ў паказаныя тэрміны заяў аб рэгістрацыі віна-
ватыя прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 118 Крым. Кодэксу
РСФСР (выд. 1922 г.) або адпаведных артыкулаў крым. кодэксаў
саюзных рэспублік.

## Б. Падлік працы электрычных станцый.

6. Зарэгістраваныя станцыі падаюць штогод на працягу першых $1^1/_2$
месяцаў новага справаздачнага году зьвесткі за мінулы справаздачны
год паводле дададзенай формы (ф. № 3), па адным экзэмпляры ў ВСНГ
СССР (Галоўэлектра) і ВСНГ адпаведнай саюзнай рэспублікі.

7. Зарэгістраваныя станцыі падаюць штомесяц тэрміновыя па-
ведамленьні па адным экзэмпляры ў ВСНГ СССР (Галоўэлектра) і
ВСНГ адпаведнай саюзнай рэспублікі, паводле дададеных форм (форма
№ 4 для электрычных станцый агульнага карыстаньня і фор. № 5
для электрычных фабрычна-заводзкіх станцый).

*Увага 1.* Электрычныя станцыі спэцыяльнага прызначэньня
(Народных Камісарыятаў Шляхоў і Пошт і Тэлеграфу і інш.)
тэрміновых паведамленьняў падаваць не павінны.

*Увага 2.* Станцыі агульнага карыстаньня сілаю менш 250
квт. штомесячных тэрміновых паведамленьняў (ф. № 4) пада-
ваць не павінны.

*Увага 3.* Тэрміновыя паведамленьні (ф. № 5) для фабрычна-
заводзкіх электрычных станцый запаўняюцца толькі тымі выт-
ворчымі прадпрыемствамі (фабрыкі, заводы, капальні і інш., але
не электрычныя станцыі агульнага карыстаньня), на якіх элек-
трычная энэргія скарыстоўваецца для тэхнічных мэт; калі-ж
фабрычна-заводзкая станцыя выпрабляе энэргію толькі для ась-
вятленьня прадпрыемства, то ў гэтым выпадку прадпрыемствы
штомесячных тэрміновых паведамленьняў (ф. № 5) падаваць
не павінны.

## РАЗЬДЗЕЛ III.

### *Аб тэхнічным наглядзе за электрычнымі ўстаноўкамі моцнага току і работамі па будаваньні электрычных станцый.*

### А. Абавязкі Электранагляду.

1. Да кампэтэнцыі Электранагляду належаць:

а) удзел у работах адпаведных органаў, якія рэгулююць і плянуюць электрычную гаспадарку;

б) разгляд і дача заключэньняў па праэктах электрычных станцый для тых устаноў, якія даюць дазвол на адчыненьне станцый у адпаведнасьці з іх сілаю, паводле пастановы СНК СССР за 30 чэрвеня 1925 г.

*Увага.* Пры разглядзе і дачы заключэньняў па праэктах электрычных станцый, а таксама пры тэхнічным абглядзе новых станцый і выдачы дазволу на адчыненьне станцый павінны захоўвацца ўсе дзеючыя правілы адмежаваньня правадоў сувязі ад шкодных дзеяньняў установак моцнага току.

в) тэхнічны абгляд новых станцый перад іх рэгістрацыяю і выдача пасьведчаньняў аб адсутнасьці перашкод да адчыненьня станцый пасьля абгляду.

*Увага.* Дазвол на адчыненьне новых станцый выдаецца неадкладна пасьля абгляду, калі пабудаваная станцыя адпавядае дзеючым правілам і нормам: будаўнічым, гігіены працы, тэхнікі бясьпечнасьці, супроць пажарных мерапрыемстваў, мерапрыемстваў па суднаходству, па будаваньні вададзейных установак, і адпавядае зацьверджанаму праэкту.

г) тэхнічны нагляд да электрычнымі станцыямі і ўсімі электрычнымі ўстаноўкамі без права ўмешваньня ў гаспадарча-адміністрацыйную дзейнасьць прадпрыемства;

д) тэхнічны і фінансавы нагляд за будаваньнем электрычных установак, якія ажыцьцяўляюцца з удзелам дзяржаўных сродкаў, асыгнаваных у бюджэце СССР, органамі, якія не знаходзяцца пад ведамам ВСНГ СССР, аднак, бяз умешваньня ў гаспадарча-адміністрацыйную дзейнасьць прадпрыемства;

е) вядзеньне сьпісу электрычных станцый.

2. Пры тэхнічным абглядзе новых станцый перад іх рэгістрацыяю складаецца на месцы абгляду акт, які падпісваецца ўсімі асобамі, што бралі ўдзел у абглядзе, у тым ліку і прадстаўніком Народнага Камісарыяту Працы.

У акце павінна быць паказана:

а) месца і час яго складаньня;

б) прозьвішча, імя і імя па бацьку, назва пасады прадстаўніка Электранагляду;

в) прозьвішчы і пасады ўсіх прысутных асоб, якія прыцягнуты да абгляду, паказваючы асобна тых асоб, якія адмовіліся падпісаць акт і якія не зьявіліся на позву;

г) падстава да абгляду;

д) пералік абгледжаных установак;

е) вынікі абгляду;

ж) вывады і заключэньні і

з) кароткія заявы зацікаўленых асоб.

*Увага.* Акты, якія тычацца абгляду гідратэхнічных і гідраўлічных частак электрычнай станцыі, пабудаванай на несу-

днаходных і несплаўных рэках, складаюцца пры ўдзеле прадстаўніка мэліарацыйна-воднай гаспадаркі адпаведнага Народнага Камісарыяту Земляробства а на суднаходных і сплаўных рэках пры удзеле адпаведнага Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Шляхоў.

3. Калі будзе выя ўлена экспдёатацыя новай або пашыранай установкі без адпаведнага дазволу цэнтральнай або мясцовай улады, а таксама калі будуць знойдзены значныя адступленьні ад зацьверджанага праэкту, то Электранагляд складае акт для прыцягненьня да адказнасьці ва ўстаноўленым парадку асоб, якія парушылі закон.

4. У адносінах да існуючых электрычных станцый і ўстановак моцнага току, якія пагражаюць грамадзкай бясьпечнасьці, Электранагляд павінен ужываць праз адпаведныя адміністрацыйныя органы ўсе патрэбныя захады да перасьцярогі, нават можа зачыняць станцыі або ўстаноўкі.

*Увага.* У адпаведнасьці з наказам інспэкцыі працы ў належных выпадках паказаныя мерапрыемствы ажыцьцяўляюцца Электранаглядам разам з інспэкцыяю аховы працы.

## В. Правы Электранагляду.

5. Службовым асобам Электранагляду даецца права вольнага абгляду ва ўсякі час усіх электрычных установак моцнага току або электрабудаўнічых работ, апроч ваенна-абарончых. У прыгранічнай паласе прадстаўнікам Народнага Камісарыяту Ваенных і Марскіх Спраў даецца права нагляду і абсьледаваньня электрычных станцый.

6. Па запатрабаваньні органаў Электранагляду адміністрацыя, пад ведамам якой знаходзяцца электрычныя ўстаноўкі або якая будуе электрычную станцыю, павінна даць усе, што ёсьць у яе зьвесткі, якія тычацца тэхнічнага боку экспдёатацыі або будаваньня, тэхнічнага стану станцыі, вытворчых праграм і праэктаў экспдёатацыі і будаўніцтва, даных аб сабекошце і тарыфах і інш.

7. Органам Электранагляду даецца права беспасрэдна зносіцца па ўсіх справах, якія належаць да іх кампэтэнцыі, з адпаведнымі ўстановамі і прадпрыемствамі. Органам Электранагляду даецца права мець пячатку і блянкі ўстаноўленых узораў.

8. Хадайніцтвы аб дазволе на будаваньне электрычных станцый і на іх пашырэньне падаюцца беспасрэдна ў паказаныя ў пастанове СНК СССР за 30 чэрвеня 1925 г. органы адпаведна з сілаю станцыі.

Адначасна копіі хадайніцтваў з усімі матар'яламі падаюцца зацікаўленымі ўстановамі і асобамі адпаведным прадстаўнікам Электранагляду для заключэньня.

9. Хадайніцтва аб дазволе на будаваньне станцыі павінна пацьвярджацца эканамічным абгрунтаваньнем і папярэднім экскізным праэктам, з якога можна было-б бачыць асноўныя даныя важнейшых частак пабудаваньняў і абсталяваньняў, схэму электрычных злучэньняў і меркаваць аб тэхнічнай правільнасьці гэтага пабудаваньня, а ў адносінах да гідраэлектрычных станцый, апроч таго, і гідралёгічнымі, геалёгічнымі і іншымі матар'яламі, пры дапамозе якіх можна ўстанавіць магчымасьць ажыцьцяўленьня прадугледжанай праэктам схэмы пабудаваньняў і іх кошт.

*Увага.* Пры паданьні праэктаў станцый сілаю больш 3000 квт. трэба кіравацца паказаньнямі цэнтральнага статыстычнага кіраўніцтва.

10. Копія праэкту захоўваецца ў справах Электранагляду, а заключэньне Электранагляду перадаецца органам, ад якіх просіцца дазвол на будаваньне.

Эскізныя праэкты і рысункі павінны падавацца ў мэтрычных мерках, дапаўняцца назвамі паказаных пабудаваньняў і абсталяваньня, усімі патрэбнымі галоўнымі разьмерамі і павінны падпісвацца складальнікамі іх з паказаньнем дат.

*Увага.* Калі будзе патрэбна, то Электранагляд можа патрабаваць паданьне агульных тэхнічных разьлікаў будаваньня і паясьняльных запісак.

11. Заключэньне Электранагляду па праэктах павінна тычыцца адпаведнасьці праэкту агульнаму або мясцоваму пляну электрыфікацыі, тэхніка-эканамічнай мэтазгоднасьці, тэхнічнай правільнасьці і захаваньня ўстаноўленых правіл і норм: электра-тэхнічных, будаўнічных, гігіены працы, тэхнічнай бясьпечнасьці, супроць пажарных мерапрыемстваў, мерапрыемстваў па суднаходзтву, па будаваньні вададзеючых установак, а таксама мэтазгоднасьці скарыстаньня вадзяной сілы.

*Увага 1.* Заключэньне Электранагляду па праэктах будаваньня электрычных станцый у прыгранічнай паласе павінна ўзгадняцца з Народным Камісарыятам Ваенных і Марскіх Спраў.

*Увага 2.* Заключэньне Электранагляду па праэкце электрычнай станцыі ў галіне адпаведнасьці яго да патрабаваньняў аховы працы павінна ўзгадняцца з належнымі органамі Народнага Камісарыяту Працы.

12. Тэрмін распачацьця абгляду не павінен перавышаць 7 дзён з моманту заяўленьня аб сканчэньні пабудовы, апроч выпадкаў, калі патрэбен выезд па-за межы таго гораду, дзе заўсёды знаходзіцца прадстаўнік Электранагляду; у гэтых выпадках да паказанага тэрміну дабаўляецца час, патрэбны для прыезду на месца.

13. Адзін экзэмпляр акту аб прыгоднасьці або няпрыгоднасьці электрычнай устаноўкі да пуску ў ход і эксплёатацыі выдаецца на рукі адказнай за будаваньне асобе і ў першым выпадку зьяўляецца для яго дакумантам, які паказвае бязумоўную або ўмоўную адсутнасьць перашкод з тэхнічнага боку да поўнай або частковай эксплёатацыі пабудаваньняў.

Другі экзэмпляр акту знаходзіцца разам з копіяю арыгіналу праэкту данай устаноўкі. У акце павінна быць адзначана, а на рысунках павінны быць дарысаваны ўсе зробленыя пры будаваньні зьмены супраць праэкту. Копія акту накіроўваецца ў ВСНГ СССР (Галоўэлектра).

14. Скаргі на няправільныя дзеяньні Электранагляду падаюцца ў Галоўэлектра ВСНГ СССР або ў ВСНГ адпаведнай саюзнай рэспублікі.

*Увага.* Формы рэгістрацыі электрычных станцый і сетак (Э—1 і Э—2), якія паказаны ў інструкцыях, будуць своячасна перасланы Галоўэлектра ў народныя камісарыяты, а таксама ў мясцовыя органы ВСНГ, ГСНГ і Аддзелы Камунальнай Гаспадаркі, куды і трэба зварочвацца за атрыманьнем такіх.

Формы Э—3, Э—4 і Э—5 адпавядаюць існуючым формам электра-статыстычнай справаздачнасьці, а іменна: форма Э—3 гадоваму статыстычнаму блянку „Б“ ЦСК, форма Э—4—тэрміновым паведамленьням для электрычных станцый агульнага карыстаньня (форма Э—4) і форма Э—5—тэрміновым павядамленьням па забесьпячэньні электрычнасьцю прамысловых устаноў (ЦСК і Цэнтральны Адзел Статыстыкі ВСНГ СССР № Э—28); гэтыя формы ёсьць на мясцох, а калі іх ня будзе хапаць, то можна будзе атрымаць 7 у Галоў-электра ВСНГ СССР, Масква

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету Народнай гасападаркі СССР Рухімовіч.

1 верасьня 1927 г.

---

## 2. Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР

АБ ПАРАДКУ ПЕРАВОДУ КРЭДЫТУ ПА ДЗЯРЖАЎНЫМ БЮДЖЭЦЕ З АДНАГО ПАРАГРАФУ Ў ДРУГІ.

*Усім народным камісарыятам і цэнтральным установам БССР, скарбовым часьцям НКФ пры ўстановах Дзяржаўнага Банку, касам НКФ і Цэнтральнай Касе.*

Пастановаю Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР за 29 ліпеня 1927 г. (З. З. СССР 1927 г., № 47, арт. 471) зьменены парадак пераводу крэдытаў (арт. 33 Палажэньня аб бюджэтных правох Саюзу ССР і саюзных рэспублік).

Паводле ўстаноўленага памянёнаю пастановаю ЦВК і СНК Саюзу ССР парадку перавод крэдытаў з аднаго параграфу ў другі ўнутры разьдзелу аднаго і таго-ж каштарысу, апроч крэдытаў на заработную плату, якія могуць пераводзіцца па згодзе галоўных распарадчыкаў крэдыту з Народным Камісарыятам Фінансаў СССР або Народным Камісарыятам Фінансаў БССР па належнасьці, робіцца выключна па загаду галоўных распарадчыкаў крэдыту.

З тае прычыны, што, паводле зацьверджанай Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР 12-га ліпеня 1927 году агульнай клясыфікацыі дзяржаўных выдаткаў, большасьць параграфаў у сваім аб'ёме значна павялічана і параграф цяпер ахапляе больш выдаткаў рознага характару, чымся гэта было паводле клясыфікацыі папярэдніх гадоў, а таксама бяручы пад увагу тое, што, пасьля скасаваньня артыкулаў, вядзеньня падліку крэдытаў па асобных відах выдаткаў, якія ўваходзяць ў склад аднаго і таго-ж параграфу, ня можна будзе ажыцьцявіць, Народны Камісарыят Фінансаў для правільнага і дакладнага падліку крэдытаў лічыць патрэбным, каб перавод крэдытаў, які робіцца загадам галоўных распарадчыкаў, праходзіў праз бюджэтныя кіраўніцтвы народных камісарыятаў фінансаў.

Для гэтага Народны Камісарыят Фінансаў БССР лічыць патрэбным з 1-га кастрычніка 1927 г. ўстанавіць наступны парадак такога тэхнічнага пераводу крэдытаў:

1. Перавод крэдытаў з аднаго параграфу ў другі ў межах аднаго разьдзелу робіцца па загаду толькі галоўных распарадчыкаў крэдытаў, без дапушчэньня якіх-небудзь перадаручэньняў гэтага права галоўнымі распарадчыкамі другарадным распарадчыкам.

2. Патрабаваньні аб пераводзе крэдытаў накіроўваюцца галоўнымі распарадчыкамі гэтых крэдытаў у Бюджэтнае Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў БССР па бюджэце БССР або ў Бюджэтнае Кіраўніцтва Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР, калі пераводзяцца крэдыты па бюджэце СССР.

3. Пасьля атрыманьня ад галоўнага распарадчыка крэдытаў патрабаваньня аб пераводзе бюджэтнае кіраўніцтва адпаведнага нар. кам. фінансаў адзначае аб такім пераводзе ў сваіх запісах і пасьля гэтага дае загад адпаведнай скарбовай часьці НКФ пры ўстанове Дзяржаўнага Банку або Касе НКФ зрабіць патрэбны перавод.

Паведамляючы паказанае вышэй, Народны Камісарыят Фінансаў БССР просіць прыняць гэта да ведама і выкананьня.

Нам. Народнага Камісара
Фінансаў БССР **В. Мікуліч.**

Намесьнік Начальніка Бюджэтнага
Кіраўніцтва НКФ БССР **М. Татур.**

4 кастрычніка 1927 г.

№2201-1.

---

Узгоднена з ЦСПСБ.

## 3. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Працы БССР

### АБ УЗАЕМААДНОСІНАХ АКРУГОВЫХ СТРАХАВЫХ КАС З АКРУГОВЫМІ ІНСПЭКЦЫЯМІ ПРАЦЫ.

На падставе абежніку Народнага Камісарыяту Працы СССР за 4 жніўня 1927 г., № 211, „О взаимоотношениях страховых касс с отделами труда и соответствующими им органами НКТ“ („Изв. НКТ“ 1927 г., № 37—38) Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе зацьвердзіць наступныя правілы аб узаемаадносінах акруговых страхавых кас з акруговымі інспэкцыямі працы:

I. Акруговыя інспэкцыі працы, не перашкаджаючы аперацыйнай працы страхавых кас, наглядаюць за законнасьцю іх дзеяньняў у парадку, прадугледжаным арт. II—V гэтай пастановы.

II. Для практычнага ажыцьцяўленьня кіраўніцтва працаю акруговых страхавых кас акруговымі інспэкцыямі працы акруговыя страхавыя касы павінны: а) падаваць пляны свае працы на папярэдняе ўзгадненьне і зацьверджаньне акруговай інспэкцыі працы; б) падаваць акруговай інспэкцыі працы пэрыядычна справаздачы аб сваёй працы, а таксама па патрабаваньні акруговага інспэктара працы падаваць справаздачы аб выкананьні таго ці іншага заданьня Галоўнага Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня; в) падаваць у акруговыя інспэкцыі працы ўсе пратаколы пасяджэньняў камітэту і прэзыдыуму страхавой касы, рэвізійнай камісіі, абежнікі і іншыя загады, якія выдаюцца камітэтам акруговай страхавой касы; г) падаваць на папярэдняе ўзгадненьне акруговай інспэкцыі працы свае каштарысы да падачы праэкту ў Галоўнае Кіраўніцтва Сацыяльнага Страхаваньня і акруговы выканаўчы камітэт.

III. Акруговы інспэктар працы мае права назначаць рэвізію спраў акруговай страхавой касы праз яе рэвізійную камісію, апошняя ў такіх выпадках ня можа адмовіцца ад рэвізіі.

IV. Акруговы інспэктар працы мае права прыпыняць незаконныя распараджэньні акруговых страхавых кас, паведамляючы аб гэтым на працягу 3 дзён у Народны Камісарыят Працы БССР.

V. Усякія даклады і іншыя справы па пытаньнях сацыяльнага страхаваньня павінны падавацца ў акруговыя выканаўчыя камітэты ад імя акруговай інспэкцыі працы.

VI. З часу выданьня гэтай інструкцыі касуюцца ўсе выданыя да гэтага часу абежнікі і пастановы аб гэтым пытаньні.

Нам. Народнага Камісара Працы БССР **Р. Алесін.**

Нач. Галоўнага Кіраўніцтва Сац. Страхаваньня БССР **Р. Альпяровіч.**

6 кастрычніка 1927 г.

№ 80.

---

## 4. Пастанова Народнага Камісарыяту Працы, Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі і Народнага Камісарыяту Аховы Здароўя БССР

### АБ УВЯДЗЕНЬНІ Ў СІЛУ НА ТЭРЫТОРЫІ БССР АБАВЯЗКОВАЙ ПАСТАНОВЫ Н. К. ПРАЦЫ СССР і ВСНГ СССР за 14-е ЛІПЕНЯ 1927 г., № 179, „ПРАВИЛА УСТРОЙСТВА І СОДЕРЖАНИЯ КУСТАРНЫХ МАСЛОБОЕН“.

Народны Камісарыят Працы, Вышэйшы Савет Народнай Гаспадаркі і Народны Камісарыят Аховы Здароўя БССР на падставе арт. 33 абавязковай пастановы Н. К. Працы СССР і ВСНГ СССР за 14 ліпеня 1927 году, № 179 („Изв. НКТ СССР“ 1927 год, № 37—38), „Правила устройства и содержания кустарных маслобоен“ пастанаўляюць увесьці ў сілу паказаную вышэй абавязковую пастанову на тэрыторыі БССР.

Народны Камісар Працы БССР **К. Бэнэк.**

Старшыня ВСНГ БССР **С. Карп.**

Народны Камісар Аховы Здароўя БССР **М. Барсукоў.**

17 кастрычніка 1927 г.

№ 82.

---

## 5. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### АБ ГРАНІЧНА-МАКСІМАЛЬНЫХ ТАКСАХ ЗА ПЕРАМОЛ ТАВАРНАГА ЗЯРНА З ВІЛЬГОТНАСЬЦЮ БОЛЬШ 16 ПРОЦ.

Паводле п. „м“ часовага палажэньня аб Народным Камісарыяце Ўнутранага Гандлю БССР (З. З. БССР 1924 г., № 25—26, арт. 227) і п. 2 пастановы Эканамічнай Нарады пры Савеце Народных Камісараў БССР за 18 жніўня 1927 г. „Аб устанаўленьні гранічна-максімальных такс за перамол таварнага зярна“ Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць наступную шкалу падвышэньня памольнай платы за пераапрацоўку таварнага зярна дзяржаўных і каперацыйных гандлюючых хлебам арганізацый на дзяржаўных, каперацыйных і прыватных млынох з вільготнасьцю больш 16 проц.

| Проц. вільготнасьці | Каэфіц. падвыш. памольн. платы | | Размер памольнай платы па памолах і млынох у кап. за цэнтнер: | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Пшаніца | | Жыта і іншае крупяное зярно | | | | | | | | | | | | | |
| | | | Вальцавы гатунковы | | Просты (97,5 проц.) | | Абойны (95 проц.) | | Сеяны (адсяваны) да 75 проц. | | Пытляваны гатунковы | | Крупы 60—65 проц. | | Крупы 40—50 проц. | | | |
| | Пшаніца | Жыта і інш. кр. зярно | На мэх. млын. | На вадзян. | На мэх. | На вадзян. | На мэх. | На вадзян. | На мэх. | На вадзян. | На мэх. | На вадзян. | На мэх. | На вадзян. | На мэх. | На вадзян. | | |
| 16 проц. . . . . . | 1 | 1 | 183 | 165 | 61 | 55 | 85 | 77 | 141 | 126 | 165 | 149 | 85 | 77 | 134 | 121 | | |
| больш 16 да 16,5 . . | 1,04 | 1,05 | 192 | 171 | 64 | 57 | 89 | 81 | 148 | 132 | 173 | 156 | 90 | 81 | 140 | 127 | | |
| „ 16,5 „ 17 . . | 1,09 | 1,12 | 199 | 180 | 68 | 61 | 95 | 86 | 158 | 141 | 185 | 167 | 96 | 86 | 150 | 135 | | |
| „ 17 „ 17,5 . . | 1,14 | 1,18 | 208 | 188 | 72 | 65 | 100 | 91 | 166 | 148 | 194 | 176 | 101 | 91 | 158 | 142 | | |
| „ 17,5 „ 18 . . | 1,21 | 1,28 | 221 | 199 | 78 | 70 | 109 | 98 | 180 | 161 | 211 | 190 | 110 | 98 | 171 | 155 | | |

У В А Г А. Кошт пераапрацоўкі зярна, вільготнасьць якога перавышае 18 проц., устанаўляецца па згодзе паміж мукамольлем і памольцамі.

2. Пастанова набывае сілу з моманту апублікаваньня.

3. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы працягваюцца да судовай адказнасьці: службовыя асобы паводле арт. арт. 106 і 141 Крым. Кодэксу, а прыватныя—паволле арт. 141 таго самага Кодэксу.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **Н. Строганаў.**

14 верасьня 1927 г.
№ 53.

---

## 6. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

### АБ ПАРАДКУ ЗАГАТОЎКІ БУЛЬБЫ ДЛЯ БРОВАРАЎ І КРУХМАЛЬНА-ПАТАЧНЫХ ЗАВОДАЎ БССР.

Для забесьпячэньня патрэбнаю колькасьцю бульбы для выкананьня вытворчых праграм дзяржаўных бровараў і крухмальна-патачных заводаў БССР, на падставе п. п. „в“, „м“ арт. 4 і п. п. „і“, „г“ арт. 6 Часовага Палажэньня аб Народным Камісарыяце Ўнутранага Гандлю БССР (З. З. БССР 1924 г., № 25—26, арт. 227) Народны Камісарыят Гандлю БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць раёны з радыусам 26 кілёмэтраў навокал кожнага з памянёных заводаў, у межах якога права вядзеньня загатовак бульбы для вытворчых патрэб даецца выключна адпаведным заводам і сельска-гаспадарчай капярацыі, абавязаўшы апошнюю загатоўленую бульбу здаваць заводам, для чаго заключыць адпаведныя дагаворы.

2. Дазволіць вываз бульбы з устаноўленага п. 1-м гэтай пастановы радыусу толькі пасьля поўнага забесьпячэньня для выкананьня вытворчых праграм заводаў і з дазволу Народнага Камісарыяту Гандлю БССР або яго мясцовых органаў.

*Увага.* З устаноўленага радыусу, па згодзе з Народным Камісарыятам Гандлю БССР і яго мясцовымі органамі, дазваляецца вывозіць адборную сталовую і экспартную бульбу.

3. Абавязаць усе дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі, якія прыбываюць у БССР для закупкі бульбы і вывазу яе за межы БССР, рэгістравацца ў Народным Камісарыяце Гандлю БССР або яго мясцовых органах.

4. Забараніць каперацыйным арганізацыям БССР заключаць угоды з памянёнымі ў п. 3-м арганізацыямі на вываз бульбы за межы БССР без паказаньня апошнімі дазволаў Народнага Камісарыяту Гандлю БССР або яго мясцовых органаў на вываз бульбы з паказаньнем раёну, з якога вываз дазваляецца.

5. Вінаватыя ў парушэньні гэтай пастановы працягваюцца да адказнасьці паводле артыкулаў 106 і 141 Крымінальнага Кодэксу.

6. Гэтая пастанова ўваходзіць у сілу з моманту апублікаваньня і пашыраецца на ўсе дзяржаўныя і каперацыйныя арганізацыі, якія робяць загатоўку бульбы на тэрыторыі БССР.

Народны Камісар Гандлю БССР **Я. Адамайціс.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **Н. Строганаў.**

5 кастрычніка 1927 г.

№ 55.

---

## 7. Пастанова Народнага Камісарыяту Гандлю БССР

АБ ЗАЦЬВЕРДЖАНЬНІ БАЗІСНЫХ КАНДЫЦЫЙ НА ХЛЕБНУЮ КАМПАНІЮ 1927—28 ГОДУ.

1. Зацьвердзіць на хлебную кампанію 1927/28 году ў БССР прынятыя Канвенцыйным Бюро наступныя базісныя кандыцы:

| Назва культур | Назва акруг | Тып | Падтып | Кляса | Натура | Прымесь: Сьмецьце (сорная) | Прымесь: Шкодная | Прымесь: Зярнавая | Вільготнасьць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Жыта азімае | Менская Гомельск., Бабруйская і Магілёўск. з быўш. раёнамі Калінінск. акругі . | I | С/З | 2 | 116 | 2,5 | 0,1 | 2,5 | Сяр. сух. |
| | Іншыя акругі БССР | I | „ | 3 *) умоўн. | 113 | 4,0 | 0,1 | 1,0 | „ |
| Авёс | Магілёўская і Аршанская | III | Звыч. | 4 *) ум. | 66 | 4,0 | 0,5 | 5,0 | Сяр. сух. |
| | Іншыя акругі . | III | „ | 3 | 70 | 3,5 | 0,5 | 4,0 | „ |
| Ячмень | Менская . | II | — | 1 | 99 | 2,5 | 0,1 | 4,5 | Сяр. сух. |
| | Іншыя акругі . | II | — | 2 *) ум. | 97 | 3,5 | 0,1 | 5,0 | „ |
| Льняное семя | Віцебская і Полацкая | I | В | 3*) | чыст. 93 | 6,5 | — | 1,0 | Сяр. сух. |
| | Іншыя акругі . | III | — | 6 ум. | 88 | 11,0 | — | 1,0 | „ |

УВАГА 1. *) Умоўна па колькасьці зьмяшчэньня сьмецьця або зернавой прымесі больш мяжы, устаноўленай для кляснага зярна.

УВАГА 2. Стан вільготнасьці „сярэдняя сухасьць“ характарызуе вільготнасьць зярна, якое мае вільгаць у межах для жыта больш 14 да 15,5 уключна, для аўса і ячменю больш 14,5 да 15,5 уключна і для льнянога семя больш 11 проц. і да 13 проц. уключна.

2. Пададзенымі вышэй базіснымі кандыцыямі кіравацца пры ўжываньні набавак і скідак (баніфікацый і рэфакцый) і пры расьсявых загатоўках на пачатковых загатоўчых пунктах, і пры разьліках па парцыёных угодах.

Нам. Народнага Камісара Гандлю БССР **М. Брыскін.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Гандлю БССР **Н. Строганаў.**

12 кастрычніка 1927 г.
№ 56.

# 8. Інструкцыя Народнага Камісарыяту Земляробства і Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

## АБ УМОВАХ АДКАЗНАСЬЦІ ПРАДАЎЦА ЗА КАРЭННЫЯ НЕДАХВАТЫ ПРАДАДЗЕНАЙ ЖЫВЁЛЫ (УВАГА ДА АРТ. 197 І УВАГА ДА АРТ. 199 ГРАМ. КОДЭКСУ БССР.)

Пры куплі-продажы коняй і іншай сельска-гаспадарчай жывёлы прадавец адказвае, калі ў прададзенай жывёлы выяўляцца неабумоўленыя пры продажы карэнныя недахваты, а таксама, калі прададзеная жывёла будзе не таго пахаджэньня, або ня будзе мець той вытворчасьці, або таго веку, якія прадаўцом абумоўлены пры продажы. Купец мае права патрабаваць у адпаведнасьці з арт. 198 Гр. Кодэксу зьмяншэньня пакупнай цаны або парваньня дагавору і аплаты яму ўсіх страт. Купец павінен праз мясцовыя вэтэрынарныя ўстановы асьцьвердзіць выяўленыя ім недахваты ў купленай жывёлы на працягу паказанага ў інструкцыі тэрміну або на працягу тых самых тэрмінаў падаць просьбу ў суд.

Для кожнага з важнейшых карэнных недахватаў устанаўляюцца наступныя тэрміны, на працягу якіх купец можа пасьведчыць наяўнасьць гэтых недахватаў і падаць адпаведную заяву ў суд.

### 1. Коні.

а) Коні не таго пахаджэньня, або не тае вытворчасьці, або коні не таго веку, якія былі абумоўлены пры продажы—14 дзён.

б) Нутрэц (на адно або на два ядры)—14 дзён.

в) Кабылы, якія ня могуць быць заплоднены—6 месяцаў.

г) Хваробы палавых органаў (ня цэлы ствол, выкрыўленьне яго або паўпаляруш)—14 дзён.

д) Палавая слабасьць для заводзкіх вытворцаў—3 месяцы.

е) Оглум—30 дзён.

ж) Запал (эмфізема легкіх, хранічныя хваробы верхніх дыхальных шляхоў, легкіх, сэрца)—14 дзён.

з) Сьвісьцячае ўдушша (аднабаковы або абодвабаковы паляруш чарпалавіднага храшчыка), выяўленае пры гонцы без папярэдняй хуткай язды—7 дзен.

і) Нораў і яго праяўленьне—14 дзён.

к) Ня цэлы язык, поўная адсутнасьць языка да ўзьдзечкі або на адну трэць—7 дзён.

л) Сьлепата з прычыны захварэньня ўнутранага вока (хвароба крышталіка, радужнай абалонкі зрокавага нэрву)—14 дзён.

м) Пэрыядычнае запаленьне воч—3 месяцы.

н) Рэўматызм капытаў—14 дзен.

о) Шчыліна капытнага рогу, якая даходзіць да мясных часьцей—14 дзён.

п) Дурныя прывычкі (прыкуска, глытаньне, ткачэньне)—14 дзён.

### 2. Іншая сельска-гаспадарчая жывёла.

а) Сельска-гаспадарчая жывёла не таго пахаджэньня, або не тае вытворчасьці, або не таго веку, якія былі абумоўлены пры продажы—30 дзён.

б) Палавая слабасьць (імпатэнцыя) з прычыны нявыпушчаньня палавога органу або адсутнасьць аднаго з абодвых ядзер—30 дзён.

в) Сьлепата з прычыны захварэньня унутранага вока (хвароба крышталіка, радужнай абалонкі і зрокавага нэрву)—7 дзён.

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Ц. Каровікаў.**

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Эднерал.**

Вэтэрынарны Інспэктар НКЗ БССР **С. Серпаў.**

11 кастрычніка 1927 г,

---

## 9. Абежнік Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР

### АБ ПАРАДКУ ВЫДАЧЫ ДАЗВОЛАЎ НА ПРАВА ГАНДЛЮ ДЭНАТУРАВАНЫМ СЬПІРЫТУСАМ.

*Начальнікам адміністрацыйных аддзелаў.*

Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР, у адпаведнасьці з арт. арт. 7 і 18 паказанай ніжэй інструкцыі ВСНГ СССР „Аб парадку выпуску і продажы насельніцтву дэнатураванага сьпірытусу для тэхнічных і гаспадарчых патрэб“, прапануе прыняць для кіраўніцтва наступнае:

1. Нарозны гандаль дэнатураваным спірытусам можа весьціся толькі ў дзяржаўных гандлёвых прадпрыемствах паводле спэцыяльных дазволаў, якія выдаюцца акруговымі адміністрацыйнымі аддзеламі пасьля ўзгадненьня з мясцовымі органамі „Цэнтрасьпірту“.

*Увага.* Для дзяржаўных гандлёвых прадпрыемстваў, якія маюць дазвол на гандаль сьпірытусавымі напіткамі, асобнага дазволу на гандаль дэнатуратам не патрэбна. Аднак, магазыны, якія гандлююць сьпірытусавымі напіткамі, павінны паведамляць акруговы адміністрацыйны аддзел аб продажы імі дэнатурату.

2. Заявы аб выдачы дазволаў могуць падавацца і беспасрэдна ў акруговы адміністрацыйны аддзел, які мае права выдаваць дазволы, і праз раённыя кіраўніцтвы міліцыі.

3. Да заяў на атрыманьне дазволаў павінна дадавацца пасьведчаньне ад мясцовага органу дзяржаўнай пажарнай аховы аб тым, што гандаль дэнатуратам у даным памяшканьні ў пажарных адносінах не зьяўляецца небясьпечным.

4. За выкананьнем устаноўленых гэтым абежнікам правіл гандлю дэнатуратам наглядаюць органы міліцыі. За выкананьнем установамі, якія гандлююць дэнатураваным сьпірытусам, правіл аб пажарнай ахове, наглядаюць мясцовыя органы дзяржаўнай пажарнай аховы.

5. За гандаль дэнатураваным сьпірытусам без належнага дазволу адказнасьць устанаўляецца паводле арт. 140 Крымінальнага Кодэксу.

Разам з гэтым публікуецца інструкцыя Народнага Камісарыяту Фінансаў і ВСНГ СССР і абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР № 407 за 7 красавіка 1927 г. аб скасаваньні талённых кніжак на набыцьцё сьпірытусу ў вялікіх гарадох, да якіх Народны Камісарыят Фінансаў БССР прылічаў г. Менск, а таксама абежнік Н. К.

Фінансаў СССР за 11-е ліпеня 1927 г., № 594, паводле якога дазваляецца продаж насельніцтву дэнатураванага сьпірытусу агульнай дэнатурацыі без талённых кніжак ва ўсіх гарадох, прылічаных да мясцовасьці 1, 2 і 3 кляс на спагнаньне патэнтнага збору з гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў, да якіх Н. К. Фінансаў БССР прылічаў Гомель, Віцебск, Бабруйск, Магілеў і Воршу.

Нам. Народнага Камісара Унутраных Спраў—
Начальнік Адміністрацыйнага Кіраўніцтва
НКУС БССР **Я. Кроль.**

30 ліпеня 1927 г.
№ 138.

---

ДАДАТАК 1.

## Інструкцыя Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі СССР

АБ ПАРАДКУ ВЫПУСКУ І ПРОДАЖУ НАСЕЛЬНІЦТВУ ДЭНАТУРАВАНАГА СЬПІРЫТУСУ ДЛЯ ТЭХНІЧНЫХ І ГАСПАДАРЧЫХ ПАТРЭБ, ВЫДАНАЯ НА ПАДСТАВЕ ПАСТАНОВЫ САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ СССР за 18-га МАЯ 1926 г., ПАСЬЛЯ УЗГАДНЕНЬНЯ З НАРОДНЫМ КАМІСАРЫЯТАМ ФІНАНСАЎ СССР.

1. Выраб дэнатураванага сьпірытусу, які выпушчаецца ў продаж насельніцтву для тэхнічных і гаспадарчых патрэб, робіцца толькі на сьпірытусавых складах або на броварах „Цэнтрасьпірту“.

2. Для вырабу дэнатураванага сьпірытусу для тэхнічных і гаспадарчых патрэб павінны ўжывацца толькі галоўныя адкіданьні рэкціфікацыі (альдзегіды і этары), пры гэтым дабаўленьне да іх сырога сьпірытусу дазваляецца толькі для давядзеньня іх да належнай моцы (90 проц.).

3. Дэнатурацыя адзначаных альдзегідаў і этараў робіцца дабаўленьнем на 100 аб'ёмаў безадноснага алкаголю адзін аб'ём дрэўнага сьпірытусу і 0,1 аб'ёму рошчыны крышталёвай фіалетавай фарбы.

*Увага 1.* Тэхнічныя умовы, якім павінны здавальняць дрэўны сьпірытус і матар'ял, што афарбоўвае сьпірытус, устанаўляецца ВСНГ СССР з Н. К. Фінансаў СССР.

*Увага 2.* Дэнатурацыя сьпірытусу робіцца ў парадку, які паказан у разьдзеле IV арт. 20—31 зацьверджанай Н. К. Фінансаў пасьля узгадненьня з ВСНГ 8-га сакавіка 1926 г. інструкцыі № 34 аб выдачы этылавага сьпірытусу для тэхнічных патрэб („Вестник Финансаў“ 1926 г., № 51).

4. Дэнатураваны сьпірытус можа прадавацца агулам і нарозна. Пад продажам агулам разумеецца водпуск за адзін раз ня менш аднаго вядра, пад продажам нарозна—водпуск за адзін раз ня больш 1/4 вядра.

5. Дэнатураваны сьпірытус, які прызначаны для продажу насельніцтву для тэхнічных і гаспадарчых патрэб, выпушчаецца з сьпірытусавых складаў або бровараў „Цэнтрасьпірту“ разьлітым у пасуду ёмістасьцю ў 3,07 і ў 0,61 літра (г. зн. 1/4 і 1/20 вядра) моцаю 90 градусаў.

6. Агулам дэнатураваны сьпірытус можа прадавацца толькі з сьпірытусавых складаў або бровараў „Цэнтрасьпірту“ і толькі ў месцы нарознага продажу.

7. Нарозна дэнатураваны сьпірытус насельніцтву з захаваньнем умоў, паказаных у гэтай інструкцыі, можа прадавацца:

а) з магазынаў „Цэнтрасьпірту“ і

б) з магазынаў іншых дзяржаўных установ і прадпрыемстваў, якім права такога продажу будзе дадзена адміністрацыйным аддзелам краявога, абласнога, губэрскага або акруговага выканаўчага камітэту пасьля ўзгадненьня з мясцовымі органамі „Цэнтрасьпірту“.

8. Дэнатураваны сьпірытус насельніцтву для тэхнічных і гаспадарчых патрэб можа прадавацца толькі грамадзянам, якія маюць талённую кніжку на набыцьцё такога, выданую мясцовымі органамі „Цэнтрасьпірту“.

9. Асобы, якія жадаюць атрымаць талённую кніжку на набыцьцё дэнатураванага сьпірытусу, падаюць заяву ў мясцовыя органы „Цэнтрасьпірту“.

У заяве павінна быць паказана, для чаго патрабуецца дэнатураваны сьпірытус і якія ёсьць прылады для карыстаньня дэнатураваным сьпірытусам.

10. Мясцовыя органы „Цэнтрасьпірту“ на падставе заявы, памянёнай у п. 9, выдаюць талённую кніжку з адрыўнымі талёнамі на права набыцьця дэнатураванага сьпірытусу на працягу году ў колькасьці 36,89 літраў (г. зн. трох вёдзер) на адну сям'ю з правам водпуску па 3,07 літра (г. зн. 1/4 вядра) у месяц з узяцьцем падпіскі ад заяўніка аб тым, што паказаныя ім даныя у яго заяве адпавядаюць сапраўднасьці. Па кожнай заяве можа быць выдадзена адначасова толькі адна талённая кніжка на атрыманьне па жаданьні заяўніка дэнатураванага сьпірытусу ў пасудзе 3,07 літра або 0,61 літра (г. зн. 1/4 вядра або 1/20 вядра).

11. Кожная талённая кніжка выдаецца з пэўным нумарам паводле асобнага рэестру талённых кніжак. На вокладцы кніжкі паказваецца: кім і каму яна выдадзена, месца жыцьця атрымальніка і для якой патрэбы павінен ужывацца сьпірытус. На вокладцы кніжкі ставіцца пячатка і падпісваецца асобаю, якая выдала кніжку. На кожным талёне кніжкі павінен быць пастаўлены нумар кніжкі, год выдачы яе і пастаўлена пячатка, часьць якой павінна пераходзіць на карэнчык талёну.

12. За кожную кніжку бярэцца з атрымальніка загатоўчы кошт кніжкі, які не павінен перавышаць 10 кап.

13. Перадача талённай кніжкі для карыстаньня дэнатураваным сьпірытусам іншай асобе, продаж талённых кніжак, а таксама перапродаж атрыманага па іх дэнатураванага сьпірытусу—забараняецца.

Калі будуць паказаныя ў гэтым артыкуле умовы парушаны, то вінаватыя прыцягваюцца да адказнасьці, а выдадзеныя ім талённыя кніжкі—адбіраюцца.

14. Талённыя кніжкі маюць сілу для атрыманьня дэнатураванага сьпірытусу толькі ў межах таго раёну, які паказаны ў талённай кніжцы.

Пасуда з дэнатураваным сьпірытусам, якая адпускаецца ў мясцы нарознага продажу, павінна быць апячатана пячаткаю складу, які рабіў разьліў, і павінна мець друкаваны этыкет з паказаньнем:

а) вялікімі літарамі слоў: „дэнатураваны сьпірытус“, „не ўжываецца для піцьця“, „памешаны з дрэўным сьпірытусам“, „атрутны“, і эмблемы сьмерці— чэрап і косьці;

б) месца разьліву;

в) моцы сьпірытусу ў градусах і

г) колькасьці зьмешчанай ў пасудзе вадкасьці ў мэтрычных мерках і ў частках вядра.

16. Мясцы продажу могуць адпускаць дэнатураваны сьпірытус ня больш 3.07 літра (г. зн. 1/4 вядра) адначасова і ня іначай, як пасьля паказаньня купцом талённай кніжкі на атрыманьне дэнатураванага сьпірытусу. Асоба, якая адпускае сьпірытус, адрывае з кніжкі адпаведны лік таленаў, якія пасьля адзначэньня зараз-жа на іх часу водпуску астаюцца на месцы продажу дэнатураванага сьпірытусу для кантролю.

17. Адкаркоўваньне апячатанай пасуды з дэнатураваным сьпірытусам і пераліваньне яго ў іншую пасуду на мясцох нарознага продажу—забараняецца.

18. Прадугледжанае п. „б" арт. 7 месца продажу дэнатураванага сьпірытусу павінна мець дазвол ад адміністрацыйнага аддзелу на такі продаж, які павінен быць вывешаны на відным месцы.

19. Усе мясцы продажу дэнатураванага сьпірытусу павінны весьці кнігу для падліку дэнатураванага сьпірытусу, прашнурованую і пасьведчаную інспэкцыяю „Цэнтрасьпірту", у якую павінны запісвацца паступленьні і расходы дэнатураванага сьпірытусу. Інспэкцыя мае права правяраць прыхода-расходныя дакумэнты і ўстанаўляць адпаведнасьць наяўнасьці дэнатураванага сьпірытусу з прыхода-расходнымі дакумэнтамі, а таксама правільнасьць водпускаў дэнатураванага сьпірытусу.

20. Устаноўленыя гэтаю інструкцыяю правілы для продажу насельніцтву дэнатураванага сьпірытусу для тэхнічных і гаспадарчых патрэб не пашыраюцца на тыя прадпрыемствы, якія атрымоўваюць сьпірытус для тэхнічных патрэб. У адносінах да гэтых прадпрыемстваў захоўваюцца усе існуючыя для гэтага пастановы.

21. Дзеяньне гэтай інструкцыі не пашыраецца на Закаўкаскую Сацыялістычную Фэдэратыўную Рэспубліку.

Нам. Старшыні Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі Г. Пятакоў.

8 ліпеня 1927 г.

---

ДАДАТАК 2.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў СССР

### АБ СКАСАВАНЬНІ ТАЛЁННЫХ КНІЖАК НА НАБЫЦЬЦЁ ДЭНАТУРАВАНАГА СЬПІРЫТУСУ Ў ВЯЛІКІХ ГАРАДОХ.

*Народным камісарыятам фінансаў саюзных рэспублік.*

Паводле зацьверджанай ВСНГ СССР пасьля узгадненьня з НК Фінансаў СССР 8-га ліпеня 1926 г. інструкцыі, разасланай для ведама народным камісарыятам фінансаў саюзных рэспублік пры абежніку за 9-га жніўня 1926 г., № 692, сьпірытус агульнай дэнатурацыі для тэхнічных і гаспадарчых патрэб можа прадавацца толькі грамадзянам, якія маюць талённыя кніжкі на набыцьцё такога, выдадзеныя мясцовымі арганамі „Цэнтрасьпірту".

Для палягчэньня умоў набыцьця дэнатурату насельніцтвам для гаспадарчых і тэхнічных патрэб Народны Камісарыят Фінансаў СССР па згодзе з ВСНГ СССР знаходзіць магчымым у сучасны момант дазволіць у гарадох з насельніцтвам ня менш 100.000 чалавек вольны продаж дэнатураванага сьпірытусу без талённых кніжак, але з захаваньнем патрабаваньняў інструкцыі за 8-га ліпеня 1926 г., паводле якой дэнатураваны сьпірытус з магазынаў іншых, апроч „Цэнтрасьпірту“, дзяржаўных каперацыйных устаноў, можа прадавацца толькі з дазволу адміністрацыйных аддзелаў мясцовых выканаўчых камітэтзў.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў СССР Фрумкін.

Час. вык. аб. Начальніка Кіраўніцтва
Дзяржаўнымі Падаткамі НКФ СССР Гардзеяў.

7 красавіка 1927 г.
№ 407.

---

ДАДАТАК 3.

Абежнік Народнага Камісарыяту Фінансаў СССС.

*Народным камісарыятам фінансаў саюзных рэспублік.*

У дадатак да абежніку за 7 красавіка 1927 г. № 407 Народны Камісарыят Фінансаў СССР па згодзе з ВСНГ СССР знаходзіць магчымым дазволіць вольны продаж насельніцтву дэнатураванага сьпірытусу агульнай дэнатурацыі без талённых кніжак, апроч гарадоў з насельніцтвам у 100.000 жыхароў, таксама ўва усіх гарадох, аднесеных да мясцовасьцяй 1, 2 і 3 клясў па спагнаньчі патэнтнага збору з гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў.

Нам. Народнага Камісара Фінансаў СССР Кузьняцоў.

Пам. Начальніка Кіраўніцтва Дзяржаўнымі
Падаткамі НКФ СССР Гардзеяў.

11 ліпеня 1927 г.
№ 594.

---

## 10. Абежнік Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

АБ СКАСАВАНЬНІ АРТ. 13 ІНСТРУКЦЫІ НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ УНУТРАНЫХ СПРАЎ БССР „АБ УЖЫВАНЬНІ ПАСТАНОВЫ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ І САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР ЗА 23 КАСТРЫЧНІКА 1926 г. „АБ АПЛАЦЕ ЖЫЛЫХ ПАМЯШКАНЬНЯЎ У ГАРАДОХ БССР“,

*Усім акруговым выканаўчым камітэтам.*

Артыкулам 13 Інструкцыі НКУС БССР за 31 студзеня 1927 г. „Аб ужываньні пастановы ЦВК і СНК БССР за 23 кастрычніка 1926 г. „Аб аплаце жылых памяшканьняў у гарадох БССР“, якая зацьверджана Старшынёю Эканамічнай Нарады пры СНК БССР (Бюлетэнь СНК БССР 1927 г., № 4, стар. 12), устаноўлена, што інваліды і іншыя асобы, якія маюць права на сацыяльнае забесьпячэньне, і якім замест пэнсіі дадзена права гандляваць на льготных умовах, аплачваюць памяшканьні: а) асобы, якія гандлююць па патэнтах 1-га

разраду, як рабочыя, што зарабляюць 30 р. на м-ц; б) асобы, якія ганлююць па патэнтах 2-га разраду, як рабочыя, што зарабляюць да 50 руб. на м-ц.

Савет Народных Камісараў БССР прызнаў, што памянёныя вышэй асобы павінны аплачваць жылыя памяшканьні, як усе асобы, якія знаходзяцца на сацыяльным забесьпячэньні, г. зн., як рабочыя і служачыя з заработкам 20 руб. на месяц (З. З. БССР 1926 г., № 44, арт. 165, п. б), і пастановаю за 19 жніўня 1927 г. скасаваў арт. 13 Інструкцыі НКУС БССР аб ужываньні пастановы ЦВК і СНК аб аплаце жылых памяшканьняў.

Паведамляючы аб гэтым, Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР просіць акруговыя выканаўчыя камітэты зрабіць належныя загады ўсім акруговым інспэкцыям камунальнай гаспадаркі, гарадзкім і раённым аддзелам камунальнай гаспадаркі аб выкананьні пастановы Савету Народных Камісараў за 19 жніўня 1927 году.

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.** Інспэктар Жылішчных і Зямельных Спраў НКУС БССР. **Л. Позін.**

1 кастрычніка 1927 г.
№ 173.

---

## 11. Пастанова Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

АБ ПЕРАБУДАВАНЬНІ У ДАМОХ ПРЫВАТНЫХ УЛАСЬНІКАЎ ЖЫЛЫХ ПАМЯШКАНЬНЯЎ Ў НЯЖЫЛЫЯ.

На падставе артыкулу 1 Грамадзянскага Кодэксу Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР пастанаўляюць:

У дамох прыватных уласьнікаў жылыя памяшканьні ў няжылыя могуць перабудоўвацца толькі з дазволу мясцовых выканаўчых камітэтаў, гарадзкіх і мястэчковых саветаў.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **С. Гохман.**

Народны Камісар Унутраных Спраў БССР **А. Сташэўскі.**

7 кастрычніка 1927 г.

---

## 12. Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Земляробства. БССР

АБ АДЧУЖЭНЬНІ БУДЫНКАЎ, ЯКІЯ БЕСПАСРЭДНА ЗЬВЯЗАНЫ З ГАСПАДАРКАЮ, АЛЕ ЗНАХОДЗЯЦЦА НА СЯДЗІБНАЙ ГАРАДЗКОЙ ЗЯМЛІ.

*Натарыяльным канторам БССР.*
*Копія-раённым выканаўчым камітэтам.*

У практыцы натарыяльных кантор узьнікла пытаньне аб тым, у якім парадку павінна рабіцца адчужэньне будынкаў, беспасрэдна зьвязаных з сельскаю гаспадаркаю, калі яны знаходзяцца на сядзібнай гарадзкой зямлі.

У гэтым пытаньні трэба кіравацца наступнымі паказаньнямі:

Купля-продаж будынкаў рэгулюецца наогул нормамі Грамадзянскага Кодэксу БССР, выд. 1927 г.

Выключэньнем з гэтага агульнага палажэньня зьяўляецца продаж будынкаў на падставе арт. арт. 23 і 24 Зямельнага Кодэксу, г. зн. будынкаў, якія знаходзяцца на землях працоўнага карыстаньня.

Да будынкаў апошняй катэгорыі, паводле арт. 3 Грамадзянскага Кодэксу, ўжываюцца спэцыяльныя нормы. Адчужэньне такіх будынкаў робіцца ў парадку, прадугледжаным абежнікам Народных Камісарыятаў Юстыцыі № 53 і Земляробства № 35 за 19 кастрычніка 1925 г. „Аб адчужэньні будынкаў і садоў, якія знаходзяцца на землях працоўнага карыстаньня“ (Бюлетэнь СНК БССР 1925 г., № 9).

Продаж будынкаў, якія знаходзяцца ў межах гораду на сядзібнай зямлі, хоць-бы гэтыя будынкі і былі зьвязаны з сельскаю гаспадаркаю, ня можа рэгулявацца паказанымі вышэй спэцыяльнымі правіламі, выданымі ў разьвіцьцё арт. арт. 23 і 24 Зямельнага Кодэксу БССР. Адчужэньне такіх будынкаў для скарыстаньня іх на месцы павінна рабіцца ў парадку, прадугледжаным арт. 187 Грамадзянскага Кодэксу БССР, г. зн. такія згоды абавязкова, пад страхам неправадзейнасьці, павінны натарыяльна засьвядчацца, з захаваньем арт. 184 ГК БССР і з рэгістрацыяю пасьля гэтага ў належным камунальным аддзеле.

Патрабаваньні арт. 184 ГК ня ўжываюцца толькі тады, калі будынак, які знаходзіцца ў межах гораду на сядзібнай зямлі, адчужаецца ўласьнікам яго з дазволу аддзелу камунальнай гаспадаркі працоўнаму землякарыстальніку для пераносу на зямлю працоўнага карыстаньня. Адчужэньне будынку на перанос у гэтым выпадку не патрабуе натарыяльнага засьведчаньня.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі БССР **С. Гохман.**

Нам. Народнага Камісара Земляробства БССР **Я. Валодзька.**

20 Кастрычніка 1927 г.
№ 91

---

## 13. Сьпіс асоб, якія зьмянілі свае прозьвішчы.

| Чарг. №№ | Ранейшыя прозьвішчы, імёны і імёны па бацьку | Новыя прозьвішчы, імёны і імёны па бацьку | Месца знаходжаньня і час нараджэньня | Куды паступіла хадайніцтва аб зьмене прозьвішча. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Бэр Леў Хацкелевіч. | Варанцоў Леў Хацкелевіч | г. Гомель, Савецкая вул., д. № 8; нарадз. 18-IX—1905 году | У Гомельскі Акруговы ЗАГС |
| 2 | Дворкін Калман-Зуся Іцкавіч. | Дворкін Кляменці Іцкавіч | г. Менск; нарадз. 25-XI—1861 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 3 | Дворкін Саламон Калманаў-Зусевіч. | Дворкін Марк | г. Менск; нарадз. 3-VIII—1896 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 4 | Жоўтаў-Жаўтабрухаў Парфір Яфрэмавіч. | Палянскі Грыгор | В. Белы-Калодзь, Навазыбкаўскага павету, Гомельскай губ.; нарадз. 8 лістапада 1897 г. | У Аршанскі Акруговы ЗАГС |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 5 | Іофэ Гольда Гіршава | Нодэльман | В. Елец, Мазырскай акрузі; нарадз. у 1906 г. | У Мазырскі Акруговы ЗАГС |
| 6 | Калола Сьцяпан Венедыктавіч | Румянцаў | п. Карабойшчына, Бабруйскай акр.; нарадз. у 1886 г. | У Бабруйскі Акруговы ЗАГС |
| 7 | Калпакоў Ігнась Мартынавіч | Авер'янаў | В. Рабеткі, Расьнянскага раёну, Калінінскай акр.; нарадз. у 1906 г. | У Калінінскі Акруговы ЗАГС |
| 8 | Кірдун Рыгор Тарасавіч | Волгін | В. Птушачы, Слуцкай акрузі; нарадз. у 1901 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 9 | Кабакова Хая-Сара Давыдава | Гольдзіна | г. Менск, Камунальная вул., д. № 38 | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 10 | Каламійцава Галена Іванава | Мышкіна | в. Слабада, Харкаўскай губ.; нарадз. у 1892 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 11 | Каламійцава Антаніна Васільлева | Каламійцава Ніна Васільлева | в. Слабада, Харкаўскай губ.; нарадз. у 1911 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 12 | Каламійцава Зінаіда Васільлева | Мышкіна Зінаіда Васільлева | в. Слабада, Харкаўскай губ., нарадз. у 1915 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 13 | Міхаіл | Марчэнка Міхась Тодаравіч | г. Магілеў; нарадз. у 1906 г. | У Магілеўскі Акруг. ЗАГС |
| 14 | Мазье Якаў Шлёмавіч | Камянецкі Бенцыян | м. Крупкі, Барысаўскай акр.; нарад. у 1880 г. | У Барысаўскі Акруг. ЗАГС |
| 15 | Піндрыкаў Эля Іосялевіч | Бяркоўскі | м. Смалявічы, Менск. акрузі; нарадз у 1861 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 16 | Піндрыкава Гінда Абрамова з роду Рольбін | Бяркоўская | м. Смалявічы, Менск. акрузі; нарадз. у 1867 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 17 | Піндрыкава Блюма Эльлева | Бяркоўская | м. Смалявічы, Менск. акрузі; нарадз. у 1900 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 18 | Піндрыкава Іахвед Эльлева | Бяркоўская | м. Смалявічы, Менск. акр.; нарадз. у 1903 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 19 | Піндрыкаў Абрам Эльлеў | Бяркоўскі | м. Смалявічы, Менск. акр.; нарадз. у 1907 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |
| 20 | Піндрыкаў Іосель Эльлеў | Бяркоўскі | м. Смалявічы, Менск. акрузі; нарадз. у 1905 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 21. | Пешка Георгі Мітрафанавіч | Аўгусьціновіч | в. Горы, Краснапольскага раёну, Калінінск. акр.; нарадз. у 1897 г. | У Калінінскі Акруговы ЗАГС |
| 22. | Пешка Зьміцер Мітрафанавіч | Аўгусьціновіч | в. Горы, Краснапольскага раёну, Калінінск. акр.; нарадз. у 1907 г. | У Калінінскі Акруговы ЗАГС |
| 23. | Пешка Аляксей Мітрафанавіч | Аўгусьціновіч | в. Горы, Краснапольскага раёну, Калінінск. акр. нарадз. у 1905 г. | У Калінінскі Акруговы ЗАГС |
| 24. | Пушноў Натан Паўлавіч | імя Анатолі | Халопеніцкі раён, Барысаўск. акр.; нападз. у 1899 г. | У Барысаўскі Акруг. ЗАГС |
| 25. | Юркін Мікіта Зьмітравіч | імя Аляксандар | г. Менск, Міхайлаўская вул., д. № 20; нарадз. у 1900 г. | У Менскі Акруговы ЗАГС |

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР **Эднерал.**

Сакратар Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР **Танакоў.**

---

Зацьверджана.

пасяджэньні Прэзыдыуму ЦКСТУ 15-га кастрычніка 1927 г. (пратакол № 1, арт. 1).

## 14. Інструкцыя Цэнтральнага Камітэтаў Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР

### АБ ПЕРАВЫБАРАХ СЕЛЬСКІХ І РАЁННЫХ КАМІТЭТАЎ СЯЛЯНСКІХ ТАВАРЫСТВАЎ УЗАЕМАДАПАМОГІ БССР.

I.

1. Перавыбарамі сельскіх і раённых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі БССР кіруе Цэнтральны Камітэт Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі БССР.

2. Кіраваньне і вядзеньне перавыбараў сельскіх ўпаўнаважаных і сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ўскладаецца на раённыя камітэты сялянскіх таварыстваў ўзаемадапамогі БССР.

3. На раённыя камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ускладаюцца наступныя абавязкі па вядзеньні перавыбарнай кампаніі сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў ўзаемадапамогі:

а) вядзеньне падрыхтоўчай працы па перавыбарах;

б) устанаўленьне тэрмінаў перавыбараў, выбарных сходаў і раённых зьездаў;

в) інфармаваньне вышэйшых за іх камітэтаў аб ходзе працы па перавыбарах;

г) нагляд за законнасьцю і сваячаснасьцю перавыбараў;

д) складаньне і сваячасная падача вынікаў па перавыбарах у вышэйшыя за іх камітэты.

4. Раённыя камітэты сялянскіх таварыстваў ўзаемадапамогі вылучаюць упаўнаважаных на перавыбары сельскіх ўпаўнаважаных у вёсках і сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і кіруюць іх працаю.

## II.

## Выбары сельскіх упаўнаважаных і сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

5. Упаўнаважаныя раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі разам з сельскім камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі разьбіваюць вёску на выбарныя вучасткі, складаюць каляндарны плян перавыбараў, абвяшчаюць насельныя пункты аб часе і месцы агульных сходаў, назначаюць упаўнаважаных, прымацоўваюць іх да выбарных вучасткаў і інструктуюць намечаных упаўнаважаных аб парадку вядзеньня перавыбараў.

6. Упаўнаважаны перавыбарнага вучастку зьбірае агульны сход членаў таварыства ўзаемадапамогі і знаёміць членаў таварыства з парадкам выбараў і нормаю прадстаўніцтва. Агульны сход лічыцца адбыўшымся, калі на ім прысутнічае ня менш 35—40 проц. членаў гэтага выбарнага вучастку, якія маюць ня менш 18 гадоў і не пазбаўлены выбарных праў паводле канстытуцыі БССР.

7. Калі ў выбарным вучастку яшчэ не праведзена каляктыўнае дабравольнае членства, то на агульным сходзе сялян першым пытаньнем ставіцца даклад аб задачах сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, а другім — аб пераходзе на каляктыўна-дабравольнае членства і аб устанаўленьні членскага ўносу. Пасьля вырашэньня другога пытаньня выбіраюцца сельскія ўпаўнаважаныя ў сельскі камітэт таварыства ўзаемадапамогі.

8. Усе пытаньні вырашаюцца адчыненым галасаваньнем, простаю большасьцю галасоў.

9. Агульны сход выбірае прэзыдыум для вядзеньня сходу. Усе пытаньні запісваюцца ў пратакол, які падпісваецца прэзыдыумам сходу. Члены таварыства, якія зьявіліліся на агульны сход, рэгіструюцца і рэгістрацыйны сьпіс прыкладаецца да пратаколу.

10. Ад кожных 50 членаў таварыства ўзаемадапамогі, якія перайшлі на каляктыўна-дабравольнае членства, выбіраецца ў сельскі камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі адзін сельскі ўпаўнаважны і адзін да яго кандыдат.

11. Пасьля сканчэньня агульнага сходу ўпаўнаважаны на перавыбары падае ў сельскі камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі на выбраных ў вёсках сельскіх упаўнаважаных сьпісы і пратаколы агульнага сходу, з рэгістрацыйным сьпісам зьявіўшыхся на сход членаў таварыства узаемадапамогі.

12. Пасьля падачы усіх пратаколаў агульных сходаў, раённы ўпаўнаважаны разам з сельскім камітэтам сялянскага таварыства узаемадапамогі склікае пленум выбраных у вёсках сельскіх упаўнаважаных і кандыдатаў да іх. Сельскія ўпаўнаважаныя, якія зьявіліся на сход, рэгіструюцца і рэгістрацыйны сьпіс прыкладаецца да пратаколу.

13. На сходзе сельскіх упаўнаважаных выбіраецца сельскі камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі ў складзе 5 членаў і 2-х кандыдатаў, рэвізійная камісія ў складзе 3 членаў і 2-х кандыдатаў дэлегаты на раённы зьезд камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі па модусу ад 200 членаў таварыства ўзаемадапамогі гэтага сельскага таварыства ўзаемадапамогі—1 дэлегат. Выбранымі лічацца тыя, якія атрымалі большасьць галасоў.

14. Пасьля сканчэньня перавыбараў сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі нававыбраны сельскі камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі склікае арганізацыйнае пасяджэньне, на якім разьмяркоўвае абавязкі сярод членаў сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі.

15. Пасьля сканчэньня арганізацыйнага пасяджэньня нававыбраны сельскі камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі з удзелам рэвізійнай камісіі прымае усе справы, кнігі, грашовыя і натуральныя сродкі і маемасьць ад старога камітэту, аб чым і складае належны акт, які падпісваецца і старым, і новым сельскім камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, і рэвізійнаю камісіяю.

16. Скаргі на няправільныя перавыбары падаюцца на працягу сямі дзён у раённы камітэт сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі праз упаўнаважанага раённага або сельскага камітэту.

17. Калі выбары ўпаўнаважаных і сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі скасованы, то даецца сем дзён на перавыбары ў другі раз.

18. Упаўнаважаны раённага камітэту, скончыўшы перавыбарную кампанію ў сельскім сялянскім таварыстве ўзаемадапамогі падае ў раённы камітэт сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі на працягу тыдня наступныя матар'ялы:

а) сьпіс выбраных сельскіх упаўнаважаных, членаў сельскага камітэту таварыства ўзаемадапамогі і рэвізійнай камісіі, паводле ўстаноўленай формы;

б) статыстычныя зьвесткі аб перавыбарным складзе сельскіх упаўнаважаных, сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі і рэвізійнай камісіі, паводле ўстаноўленай формы;

в) пратакол сходу сельскіх упаўнаважаных аб выбарах сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі;

г) пратакол арганізацыйнага пасяджэньня сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі аб разьмеркаваньні абавязкаў;

д) апісальную частку вынікаў перавыбараў.

*Увага.* Увесь матар'ял аб перавыбарах, паказаны ў арт. 18, павінен захоўвацца ў адным экзэмпляры ў справах сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі.

19. Прэзыдыум раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі разглядае і падае на зацьверджаньне пленуму раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ўсе матар'ялы аб перавыбарах сельскіх упаўнаважаных у вёсках і сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

## III.

## Перавыбары раённых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

20. Пасьля сканчэньня перавыбараў сельскіх упаўнаважаных і сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і зацьверджаньня перавыбараў склікаецца раённы зьезд сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

Раённы зьезд адчыняецца старшынёю раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі. Для вядзеньня працы зьезду выбіраецца прэзыдыум. Усе пытаньні, якія пастаўлены на павестцы дня, і прынятыя па іх рэзалюцыі павінны быць запісаны ў пратакол. Усе дэлегаты, якія зьявіліся на зьезд, рэгіструюцца і рэгістрацыйны сьпіс прыкладаецца да пратаколу.

22. Раённы зьезд выбірае раённы камітэт у складзе 15 членаў і 5 кандыдатаў і рэвізійную камісію ў складзе 3 членаў і 2 кандыдатаў.

23. Пасьля сканчэньня раённага зьезду камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі склікаецца арганізацыйнае пасяджэньне нававыбранага раённага камітэту, на якім для вядзеньня штодзённай працы выбіраецца прэзыдыум з 5 чалавек.

24. Пасьля сканчэньня арганізацыйнага пасяджэньня нававыбраны прэзыдыум з удзелам рэвізійнай камісіі прымае ад старога складу прэзыдыуму справы, кнігі, грашовыя і матар'яльныя сродкі, а таксама маемасьць, аб чым складае належны акт, які падпісваецца прэзыдумам старога і новага складу і рэвізійнаю камісіяю.

25. Скаргі на няправільныя перавыбары раённага камітэту падаюцца на працягу тыдня ў вышэйшыя за іх камітэты праз раённы камітэт.

26. Скончыўшы перавыбары ў раёне, раённы камітэт падае ў вышэйшыя за яго камітэты наступныя матар'ялы:

а) копіі пратаколаў з пастановамі зьезду і арганізацыйнага пасяджэньня раённага камітэту;

б) сьпіс выбраных членаў раённага камітэту і рэвізійнай камісіі, паводле ўстаноўленай формы;

в) статыстычныя зьвесткі аб выбраным складзе сельскіх упаўнаважаных, сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, раёнага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і рэвізійнай камісіі, паводле ўстаноўленай формы;

г) апісальную частку вынікаў перавыбараў камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі раёну.

27. Усю працу па перавыбарах сельскіх упаўнаважаных, сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і раённага камітэту сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі раённы камітэт сялянскіх таварыстваў ўзаемадапамогі узгадняе з дырэктыўнымі органамі раёну, а таксама інфармуе іх і вышэйшыя за іх камітэты аб ходзе перавыбараў.

Старшыня Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў
Узаемадапамогі БССР **Л. Адзінцоў.**

Адказны Сакратар Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў
Узаемадапамогі БССР **П. Стрыкаў.**

20 кастрычніка 1927 г.
№ 6.

---

## 15. Ітогі конкурсу на лепшы сельскі камітэт сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі БССР.

### I. Мэта конкурсу.

Конкурс павінен быў выявіць і добрыя і дрэнныя бакі працы сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, падлічыць дасягненьні ў арганізацыйным, матар'яльным і гаспадарча-вытворчым абслугоўваньні членаў, адзначыць недахопы і намеціць мерапрыемствы для ажыцьцяўленьня працы сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі на далейшы час і для зьнішчэньня хібаў і недахопаў.

### II. Удзел камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

Удзельнічала ў конкурсе на лепшы камітэт сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі 215 сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, што складае да агульнай колькасьці 1.646 сельскіх камітэтаў 13 проц., з 215 прысланых карэспандэнцый зьмешчана на старонках газэт 120 карэспандэнцый або 55 проц., іншыя 95 карэспандэнцый або 45 проц. ня зьмешчаны. Пры гэтым з зьмешчаных 120 карэспандэнцый на старонках газэты „Беларуская Вёска“ зьмешчана 100 карэспандэнцый, што складае да агульнай колькасьці прысланых карэспандэнцый 46 проц., а іншыя 20 карэспандэнцый, як нацыянальныя, зьмешчаны на старонках газэты „Огка“ (польская газэта), што складае да агульнай колькасьці прысланых карэспандэнцый 9 проц., Удзел сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ў конкурсе па кожнай акрузе ў лічбах і працантах да агульнай колькасьці камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі выяўляецца ў наступным:

| №№ п. п. | НАЗВА АКРУГІ | Колькасьць сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі. | Агульная лічба сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, якія удзельнічалі ў конкурсе. | Лічба ў проц. | Колькасьць карэспандэнцый, якія зьмешчаны на старонках газэты „Беларуская Вёска“ | Колькасьць карэспандэнцый, якія зьмешчаны на старонках газэты „Огка“ | Колькасьць карэспандэнцый, якія ня зьмешчаны. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Менская . . . | 200 | 113 | 56 | 53 | 8 | 52 |
| 2. | Бабруйская . . | 199 | 22 | 10 | 7 | 2 | 13 |
| 3. | Мазырская . . | 140 | 7 | 5 | 4 | 2 | 1 |
| 4. | Віцебская . , . | 132 | 9 | 7 | 7 | 1 | 1 |
| 5. | Гомельская , . | 464 | 21 | 4 | 9 | 2 | 10 |
| 6. | Полацкая . . . | 112 | 14 | 12 | 7 | 4 | 3 |
| 7. | Аршанская . . | 151 | 18 | 11 | 7 | 1 | 10 |
| 8. | Магілеўская . . | 248 | 11 | 4 | 6 | — | 5 |
| | УСЯГО. . | 1646 | 125 | 13 % | 100 46% | 20 9% | 95 45% |

## III. У чым выяўляюцца дасягненьні камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

З агульнай колькасьці зьмешчаных і прысланых карэспандэнцый аб працы сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі відаць, што лепшымі зьяўляюцца толькі 20 камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, якія могуць быць прыкладам іншым сельскім камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

Яны маюць наступныя дасягненьні: працаздольнасьць старшынь сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, іх членаў, рэвізійных камісій і сельскіх упаўнаважаных, плянавасьць у працы, правільнае разьмеркаваньне сродкаў у каштарысе, правільная пастаноўка справаздачнасьці і перад выбаршчыкамі і перад вышэйшымі за іх камітэтамі, сувязь з партыйнымі і камсамольскімі ячэйкамі, сельскімі саветамі, актыўны ўдзел сельскага камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі ў працы сельскага савету і ў працы яго камісій, сувязь з спажывецкаю і сельска-гаспадарчаю капярацыяю, досыць значная праца праароблена ў галіне каператаваньня, каперавана ў сярэднім 66 бядняцкіх гаспадарак на сельскі камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, добры матар'яльны стан (у сярэднім на сельскі камітэт прыходзіцца збожжа 450 п. і 566 р. грошай), добра спаганяюцца членскія ўносы, ёсьць спагнаньне на 70 проц., 90 проц. і нават 100 %, а ў сярэднім спагнана на 561 р., што складае 49 проц. на сельскі камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі. Здавальняючы праведзена вясеньняя пасеўная кампанія, ў якую разьмяркована сярод членаў сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі па кожнаму камітэту ў сярэднім 501 пуд.

Ёсьць пракатныя пункты з выстарчальнаю колькасьцю сельскагаспадарчых машын. Ёсьць млыны, цагельні, вапенныя печы, лазьні, кузьні і паромныя пераправы, абодні, арцелі і заводзкія быкі. Апрацоўваюцца зямельныя вучасткі грамадзкім парадкам, у большасьці робіцца працоўна-гужавая дапамога.

### Сьпіс разьмеркаваньня прэмій лепшым камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі па конкурсе.

| №№ п. п. | Конкурсны № | Назва сельскага камітэту | Назва раёну | Назва акругі |
|---|---|---|---|---|
| | | **1-я прэмія.** | | |
| 1. | 18 | Каменскі | Вузьдзенскі | Менская |
| 2. | 19 | Шчыткаўскі | Старадарозкі | Бабруйская |
| 3. | | Зябенскі | Чэрыкаўскі | Магілеўская |
| 4. | 99 | Тураўскі II | Тўраскі | Мазырская |
| | | **2-я прэмія.** | | |
| 1. | 43 | Астр.—Гарадзец. | Астр.—Гарадзецкі | Менская |
| 2. | 3 | Азяранскі | Рагачоўскі | Бабруйская |
| 3. | 52 | Славенскі | Талачынскі | Аршанская |
| 4. | 116 | Барковіцкі | Валынецкі | Полацкая |
| 5. | 100 | Макаравіцкі | Пятрыкоўскі | Мазырская |
| 6. | 27 | Халамерскі | Езярышчанскі | Віцебская |
| 7. | 129 | Весялоўскі | Лепельскі | Полацкая |

| | | 3-я прэмія. | | |
|---|---|---|---|---|
| 1. | 64 | Калачоўскі | Лагойскі | Менская |
| 2. | 40 | Астрашыцкі | Астр.-Гарадзецкі | Менская |
| 3. | 23 | Клегчанскі | Вульскі | Полацкая |
| 4. | 83 | Новасадзкі | Койданаўскі | Менская |
| 5. | 91 | Старасельскі | Заслаўскі | Менская |
| 6. | 1 | Карзуноўскі | Сьмілавіцкі | Менская |
| 7. | 37 | Падсельскі | Чачавіцкі | Магілеўская |
| 8. | 102 | Губіншчанскі | Чэрыкаўскі | Магілеўская |
| 9. | 117 | Зборскі | Асіпавіцкі | Бабруйская |

Камітэт, якому прызначана 1-я прэмія атрымае 5 наступных сельска-гаспадарчых машын: малацілку з прыводам коштам 211 руб., сартыроўку „Трыумф"—69 руб., саламарэзку прывадную 84 руб., льнамяліцу 2-х вальцовую-54 р. 66 кап., усяго на агульную суму 418 руб. 66 кап.

Камітэт, якому прызначана 2-я прэмія, атрымае 3 машыны: малацілку з прыводам—211 руб., льнамяліцу 2-х вальцовую—54 р. 66 кап., усяго на агульную суму 265 руб. 66 кап.

Камітэт, якому прызначана 3-я прэмія, атрымае 2 машыны: сартыроўку „Трыумф"—69 руб., саламарэзку ручную замежную 42 р. 29 к., усяго на агульную суму 111 р. 29 кап.

## IV. У чым выяўляюцца недахопы ў працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамагі.

З агульнай колькасьці зьмешчаных і прысланых карэспандэнцый аб працы сельскіх камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі відаць, што горшымі зьяўляюцца 79 камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, у якіх ёсьць наступныя недахопы: у большасьці непрацаздольны старшыні сельскіх камітэтаў, іх члены, рэвізійныя камісіі і сельскія ўпаўнаважаныя, няма плянавасьці ў працы, няправільна разьмяркоўваюцца сродкі ў каштарысе, дрэнная пастаноўка справаздачнасьці і перад выбаршчыкамі і перад вышэйшымі за іх камітэтамі, няма сувязі і ўдзелу ў працы сельскіх саветаў і ў працы камісій, у спажывецкай сельска-гаспадарчай і крадытнай капярацыі невыстарчальнае, а ў некалькіх камітэтах і зусім не праводзіцца, каапераваньне бядняцкіх гаспадарак. Не арандуюцца і ня будуюцца прадпрыемствы і не арганізоўваюцца пракатныя пункты таму што дрэнны матар'яльны стан і не спаганяюцца членскія ўносы і не апрацоўваюцца зямельныя вучасткі. Малы ўдзел бярэцца ў правядзеньні пасеўных кампаній і ў частцы загатоўкі насеньня і дачы працоўна-гужавой дапамогі.

## V. Добрыя бакі конкурсу.

1. Конкурс наглядна паказаў членам камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, што ёсьць такія камітэты, якія сапраўды даюць вялізарную карысьць для членаў камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі.

2. Члены камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі праз газэты азнаёміліся з працаю лепшых камітэтаў і аб тым, што гэтыя камітэты маюць і што можна зрабіць, а таму яны пачнуць патрабаваць ад сваіх камітэтаў такой самай працаздольнасьці, якая-б давала вялізарную карысьць для іх.

3. Конкурс разьбіў канчаткова існуючую думку паасобных таварышоў аб тым, што камітэты няжыцьцёвая арганізацыя і што іх трэба ліквідаваць, а наадварот паказаў, што камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі жыцьцёвая і карысная грамадзкая арганізацыя і што яна можа зрабіць пры правільнай пастаноўцы працы, на якую толькі патрэбна зьвярнуць асаблівую увагу і зрабіць дапамогу.

4. Конкурс давёў, што там, дзе сельскія саветы, партыйныя і камсамольскія арганізацыі, каперацыйныя і грамадзкія арганізацыі ў выстарчальнай меры дапамагалі камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, там і добра працуе камітэт і дае вялізарную карысьць для сялянства.

5. Конкурс падкрэсьліў, як гэта і патрэбна, што той камітэт добра працуе, у які пры дапамозе партыйных і камсамольскіх арганізацый і сельскіх саветаў пры перавыбарах былі выбраны працаздольныя зацікаўленыя старшыні, члены камітэту, рэвізійнай камісіі сельскія ўпаўнаважаныя.

## VI. Адмоўныя бакі конкурсу.

Адмоўнымі бакамі конкурсу зьяўляецца:

1. Не даволі добрая падрыхтоўка да конкурсу камітэтаў, сельскіх саветаў, партыйных і камсамольскіх ячэек.

2. Тэрмін для правядзеньня конкурсу быў дадзены малы папершае, а падругое, вызначаны няўдалы пэрыад—лета, у той час, як працаўнікі камітэтаў заняты на працы ў сваёй гаспадарцы і знаходзіліся ў адпачынку.

3. У час правядзеньня конкурсу на лепшы сельскі камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі акруговымі, раённымі і сельскімі камітэтамі і іх актывамі ня досыць была зьвернута ўвага на ўдзел іх камітэтаў у конкурсе.

4. Прычына няпоўнага ўдзелу камітэтаў у конкурсе тлумачыцца тым, што Гомельшчына зусім ня брала ўдзелу таму, што там будзе асобна рабіцца конкурс у акруговым маштабе.

5. Нядосыць была зьвернута ўвага на ўдзел у правядзеньні конкурсу сельскімі карэспандэнтамі.

6. Цэнтральныя і акруговыя газэты, апроч газэты „Беларуская Вёска“ і газэты „Онка“ мала зварочвалі ўвагі на правядзеньне конкурсу.

7. Нявыканана дырэктыва Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Ўзаемадапамогі аб актыўным удзеле камітэтаў у конкурсе з прычыны недаацэнкі значэньня і мэты правядзеньня конкурсу раённымі і сельскімі камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, напрыклад, у некаторых мясцох выносілі пастанову аб адмаўленьні ад удзелу ў конкурсе ў зьвязку з тым, што ў іх няма такіх камітэтаў, якія-б падыйшлі да конкурсу, як лепшыя.

## VII. Як зьнішчыць недахопы.

Недахопы, якія высьвятлены лістамі сельскіх карэспандэнтаў у працы камітэтаў, трэба зараз-жа зьнішчыць, для чаго трэба ажыцьцявіць наступныя мерапрыемствы:

1. Трэба ў надыходзячую перавыбарную кампанію камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі падабраць больш працаздольны склад старшынь сельскіх камітэтаў, іх членаў, рэвізійных камісій і сельскіх упаўнаважаных.

2. Дабіцца ўвядзеньня ў працу камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі плянавасьці, правільнага разьмеркаваньня сродкаў у каштарысе, правільнай пастаноўкі справаздачнасьці перад выбаршчыкамі і перад вышэйшымі за іх камітэтамі, правільнай пастаноўкі справаводзтва і рахункаводзтва, прыцягнуўшы да гэтай працы сакратароў сельскіх саветаў, паводле законаў аб камітэтах сялянскай узаемадапамогі.

3. Ужыць захады да ўзмацненьня матар'яльнага стану асабліва насенных фондаў праз спагнаньне членскіх уносаў і праз апрацоўку грамадзкім парадкам зямельных вучасткаў.

4. З палепшаньнем матар'яльнага стану ўжываць захады да разьвіцьця вытворчай дзейнасьці: арэнды і будаваньня млыноў, цагельняў, арганізацыі пракатных пунктаў і працоўных арцеляў з паробкаў і беднякоў.

5. Ня гледзячы на добрыя умовы каператаваньня бедняты, усё-ж гэтая праца належным чынам не вялася, а таму трэба ўжыць належныя захады да поўнага каператаваньня бедняты.

6. Ажыцьцявіць працу ў галіне сувязі з сельскімі саветамі, капярацыяю і грамадзкімі арганізацыямі для дапамогі ім у працы і наадварот аб іх дапамозе ў працы камітэтаў.

7. Узмацніць жывую сувязь праз інструктаваньне і абсьледаваньне сельскіх камітэтаў, старшынямі раённых камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і старшынямі акруговых камітэтаў з такім разрахункам, каб кожны сельскі камітэт сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі быў абгледжаны і інструктаваны два разы ў год.

**А. Арапучык.**

21 кастрычніка 1927 г.

---

## Чарговыя задачы ў працы сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі БССР.

Роля сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ў справе арганізацыі незаможных пластоў вёскі і стварэньня савецкай вясковай грамадзкасьці робіцца з кожным годам усё больш значнаю. Камітэтамі сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі ўцягнуты ў сялянскія таварыствы узаемадапамогі 84 проц. агульнай колькасьці насельніцтва БССР, якое мае права выбараў у саветы. Кіруючы склад камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі характарызуецца наступнымі данымі: па сацыяльным стане—беднякоў 69 проц., серадняков 24 проц., заможных 1 проц., рабочых 2 проц. і служачых 4 проц.; па полу—мужчын 95 проц., жанчын 5 проц.. Матар'яльны стан камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі з кожным годам узмацняецца, што відаць з наступнага: на 1 кастрычніка 1925 г. было фондаў 156.636 пудоў збожжам і 95.131 р. грашмі, а на 1 красавіка 1927 г. было 366.281 пуд. збожжам і 232.698 руб. грашмі, што дае павялічэньне збожжам на 130 проц. і грашмі на 145 проц. На 1 кастрычніка 1925 г. каператавана было 9.704 бядняцкіх гаспадарак, а на 1 красавіка 1927.—12.537 бядняцкіх гаспадарак, што дае павялічэньне на 30 проц. Прадпрыемстваў, дапаможных сельскай гаспадарцы, якія накіраваны на абслугоўваньне, падняцьце і дапамогу бядняцкім гаспадаркам было на 1 кастрычніка 1927 г. 171 шт., а на 1 кастрычніка 1926 г. 343 шт., што дае павялічэньне на 100 проц. Пракатных пунктаў на 1 кастрычніка 1925 г. было 13, а на 1 красавіка

1927 г. было 315, у якіх ёсьць 1.889 сельска-гаспадарчых машын, што дае павялічэньне на 302 пракатных пункты. Зроблена матар'яльнай дапамогі, бядняцкім гаспадаркам, сем'ям чырвонаармейцаў, удовам, сіратам і інвалідам на 1 кастрычніка 1926 г.-49.663 гаспадаркам: узваротнай дапамогі збожжам 168.468 пуд. і грашмі 20.670 рублёў і неўзваротнай—збожжам 24.659 пуд. і грашмі 10.449 руб. На 1 кастрычніка 1927 г. зроблена дапамогі 118.230 гаспадаркам: зваротнай, збожжам 390.993 пуд. і грашмі 61.159 руб., неўзваротнай—4.168 гаспадаркам-збожжам 2.383 пуд. і грашмі 13.339 рублёў і працаю членамі таварыства 18.682 гаспадаркам. Усяго зроблена дапамогі 140.480 гаспадаркам—збожжам 393.876 п. і грашмі 65.327 р..

Усе гэтыя лічбы цалкам паказваюць, што ў падняцьці сельскай гаспадаркі праз машынізацыю, і калектыўнасьць карыстаньня машынамі праз утварэньне насенных фондаў ва ўзмацненьні блёку бедняка з серадняком, у змаганьні за ўвядзеньне новых элемэнтаў у быт і жыцьцё сялянства і ў эканоміі дзяржаўных сродкаў па справе сацыяльнага забесьпячэньня,—сялянскія таварыствы ўзаемадапамогі павінны адыграць вялікую ролю ў жыцьці вёскі, але каб гэта праца пашыралася, яны патрабуюць усялякай дапамогі ад дзяржаўных органаў і шырокай савецкай грамадзкасьці.

Галоўныя задачы ў далейшай працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі намечаны пастановаю Прызыдыуму ЦВК БССР па дакладу аб працы камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і пастановамі 3-га Пленуму Цэнтральнага Камітэту Сялянскіх Таварыстваў Узаемадапамогі.

Задачы гэтыя наступныя:

Камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі павінны браць актыўны ўдзел у працы сельскіх-саветаў і ў працы камісій, а іменна: у перавыбарах саветаў, у падлічальна-падатковай працы, у адмяжаваньні лясоў мясцовага значэньня, у іх ахове і разьмеркаваньні, у дачы льгот па земляўпарадкаваньні і перасяленьні, у выдачы прэмій за лепшае вядзеньне сельскай гаспадаркі, у выдачы льготнага даўга-тэрміновага крэдыту, накіроўваючы сваю дзейнасьць, на арганізацыю незаможнага сялянства і на поўнае скарыстаньне атрыманай дапамогі. А таксама яны павінны дапамагаць у працы культурных устаноў вёскі пры ліквідацыі няпісьменнасьці, у поўным наведваньні вучнямі школ, у распаўсюджваньні журналаў і газэт і ў арганізацыі карысных культурна-асьветных устаноў, клюбаў, хат-чытальняў і іншых.

Уцягваць у камытэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі насельніцтва, якое да гэтага часу не ўцягнута, на падставе калектыўна-дабравольнага членства.

Уводзіць у працу камітэтаў сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі плянавасьць, каштарыс, рэгулярную справаздачнасьць перад выбаршчыкамі і вышэйшымі за іх камітэтамі.

Спагнаньне членскіх уносаў і запазычанасьці да гэтага часу знаходзілася ў дрэнным становішчы. У мінулым 1925—26 гаспадарчым годзе было спагнана толькі 25 проц. членскіх уносаў і 20 проц. было зьнята з беднякоў, такім чынам асталося неспагнана 55 проц. членскіх уносаў, а таму камітэты сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі павінны зьвярнуць на гэту справу асаблівую увагу. Да членаў, якія адмаўляюцца ад выплаты членскіх уносаў, ужываць захады таварыскага ўплыву на сходах членаў праз выгавары з папярэджаньнем аб выключэньні з таварыства на тэрмін ад аднаго месяца да трох і праз выключэньне зусім з таварыства. У галіне спагнаньня

запазычанасьці камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі павінны сачыць за своечасовую выплатаю іх і за скарыстаньнем на беспасрэднае прызначэньне, напрыклад, калі пазычка выдадзена на куплю каня, каровы, насеньня або сельска-гаспадарчых машын, то трэба прасачыць, каб выдадзеныя грошы пашлі толькі на гэтую мэту.

Разьвіцьцё вытворчых прадпрыемстваў праз будаваньне сваіх або праз узяцьце ў арэнду павінна быць накіравана выключна на падняцьце і абслугоўваньне сельскай гаспадаркі, асабліва бедняцкай: пракатныя пункты, млыны, цагельні, сукнавалкі, крупадзёркі, смалакурні і кузьні.

Зямельныя вучасткі, якія ёсьць у камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі, трэба апрацоўваць культурна-паказальным спосабам і грамадзкім парадкам. Тыя камітэты, у якіх няма зямельных вучасткаў, павінны дабівацца атрыманьня іх ад зямельных органаў.

У час пасеўных кампаній камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі павінны своечасна забесьпячаць незаможных членаў тарыства насеньнем. Тым членам, якія ня маюць жывога і мёртвага інвэнтару, арганізоўваць грамадзкую дапамогу і ў часе пасеўных кампаній і ў часе зьбіраньня ураджаю з поля, арганізоўваючы чырвоныя нядзельнікі, талаку, шырока уцягваючы ў гэтую справу членаў таварыства. Камітэты сялянскіх таварystваў узаемадапамогі павінны павялічваць дапамогу гаспадаркам інвалідаў, сем'ям інвалідаў і чырвонаармейцаў і бедным удовам адзіночкам, а таксама абараняць праўныя інтарэсы членаў таварыства ў справе скарыстаньня імі поўнасьцю льгот, якія даюцца урадам.

Камітэты павінны ужываць захады да большага кааператываньня беднаты, адначасова дапамагаючы ў гэтай справе кааперацыйным арганізацыям, а таксама арганізоўваць калектывы або таварыствы парабкоў і беднякоў і дабівацца для іх рознай працы ад дзяржаўных, гаспадарчых, кааперацыйных і грамадзкіх арганізацый.

Пастаўленыя перад камітэтамі сялянскіх таварystваў узаемадапамогі задачы могуць быць выкананы толькі тады, калі ў працы камітэтаў сялянскіх таварystваў узмемадапамогі будуць браць удзел партыйныя і камсамольскія арганізацыі, савецкія органы, кааперацыйныя і іншыя арганізацыі—з аднаго боку, а з другога—калі ў надыходзячую перавыбарную кампанію будзе выбраны больш працаздольны склад актыўных працаўнікоў сельскіх і раённых камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі і іх рэвізійных камісій.

Выкананьне пастаўленых перад камітэтамі сялянскіх таварystваў узаемадапамогі задач узмоцніць сялянскую узаемадапамогу з арганізацыйнага і з гаспадарча-матар'яльнага боку, павялічыць разьвіцьцё з большым пасьпехам сельскай гаспадаркі, асабліва бядняцкай, яшчэ больш узмоцніць блёк бедняка з серадняком і ўнясе ў жыцьцё вёскі больш новых элемэнтаў.

Адзначаныя задачы павінны быць асноваю наказу членам камітэтаў сялянскіх таварystваў узаемадапамогі па справаздачных іх дакладах, у час перавыбарнай кампаніі, якая пачнецца з 1 сьнежня г. г. і працягнецца да 1 студзеня наступнага 1928 г.

**А. Арапучык.**

26 кастрычніка 1927 г.

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**